# Рэгіянальная газета. Rh.by




НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

12+

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

3 лістапада 2017 года №44 (1175)





## Чэмпіёнам свету па панкратыёне стаў жыхар Чысці Андрэй Жукоўскі

старонка 22

## "Рэгіянальная газета" прызнаная найлепшай мясцовай газетай 2017 года

старонка 2

## У Ашмянах выбралі лепшых повараў і кандытараў

старонка 3

## 6 500 кіламетраў вачыма ўдзельніцы падарожжа па слядах Скарыны і Агінскага

старонкі 20-21

# "Маё імя – Калерыя", Ці "Красная армия легко разгромила империалистов Японии"

"Рэгіянальная газета"знайшла тых, хто ні на дзень не забываецца, што такое Кастрычніцкая рэвалюцыя. І вінаватыя ў гэтым іх імёны. Да 100-годдзя Кастрычніка 1917-га.

старонка 18




Социальные плакаты СССР, 1955 г. Иванов В. my-ussr.ru




Фота Ганны МОРЗЫ.

Пасля ўзнагароджання злева направа: карэспандэнтка Аксана Ярашонак, галоўны рэдактар Аляксандр Манцэвіч, загадчыца аддзела інфармацыі Зоя Хруцкая.

## “Рэгіянальная газета” прызнаная найлепшай газетай 2017 года сярод рэгіянальных СМІ

**Асацыяцыя выдаўцоў рэгіянальнай прэсы “Аб’яднаныя Масмедыі” 27 кастрычніка назвала “Рэгіянальную газету” найлепшай газетай 2017 года сярод рэгіянальных СМІ.**

Усяго ў конкурсе ўдзельнічала больш за 60 журналістаў з розных выданняў.

Журналісты “Рэгіянальнай газеты” адзначыліся ў розных намінацыях. **Зоя Хруцкая** стала фіналісткай у намінацыі “Відэа”, **Аксана Ярашонак** – у намінацыі “Аналітычны матэрыял”, **Наталля Тур** – у намінацыі “Фота” і “Відэа”.

А яшчэ Наталля перамагла ў намінацыі “Культура і адукацыя” з матэрыялам “Акцыя “Бессмяротны полк” у Маладзечне: “Хлопчык, хто ў цябе на партрэце?” “Не ведаю, нам яго ў школе выдалі”.

Дыпломы фіналістаў рэдакцыя атрымала за сайт rh.by і за акцыю “Дзясятачка”.

У мінулы раз найлепшай “РГ” станавілася ў 2015 годзе.

**Аддзел інфармацыі.**

## Без мужа, пірсінгу, татуіровак і макіяжу: віляйчанкі змогуць паўдзельнічаць у кастынгу “Міс Беларусь-2017”

ВІЛЕЙКА

У Беларусі пачынаецца адбор дзяўчат для ўдзелу ў Нацыянальным конкурсе прыгажосці “Міс Беларусь”.

Пераможца зможа прадставіць краіну на міжнародных конкурсах прыгажосці і прымераць пераходную карону “Міс Беларусь”.

Таксама галоўная прыгажуня атрымае 11 тысяч 500 рублёў.

Віляйчанкі, якія жадаюць атрымаць тытул самай прыгожай дзяўчыны краіны, могуць прыйсці на кастынг 10 лістапада ў 18:00 у вілейскі Палац культуры.

Абавязкова без макіяжу. Нельга мець татуіроўкі і пірсінг. З сабой трэба ўзяць туфлі на высокім абцасе, купальнік і гумку для валасоў.

Акрамя ацэнкі знешнасці, дзяўчына павінна быць гатовай да інтэлектуальных пытанняў і ўмець праявіць сябе: праспяваць, станцаваць, паразмаўляць на замежнай мове.

Крытэрыі, якім павінны адпавядаць дзяўчаты: ад 18 да 24 гадоў з добрымі знешнімі дадзенымі; вышэйшыя за 174 сантыметры; толькі незамужнія і якія ніколі не былі ў шлюбе, без дзяцей; грамадзянкі Беларусі ці дзяўчаты, якія пастаянна пражываюць тут.

**Аддзел інфармацыі.**

## У музкаледжы будзе дзень адчыненых дзвярэй

МАЛАДЗЕЧНА

Ён пройдзе 4 лістапада. Маладзечанскі дзяржаўны музкаледж імя Агінскага запрашае будучых абітурыентаў, іх бацькоў і педагогаў.

**10-11 гадзін** – рэгістрацыя абітурыентаў.

**11-14 гадзін** – кансультацыя па спецыяльных дысцыплінах (музычны і мастацкі профіль).

Удзельнікаў чакаюць па адрасе: *Вялікі Гасцінец, 52.*

**Аддзел інфармацыі.**

# Спаборнічалі сталяры і маляры

МАЛАДЗЕЧНА

**У маладзечанскім каледжы пачаўся штогадовы конкурс прафесійнага майстэрства “Каледж-скілс”.**



Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

Ягор Янкоўскі – адзіны першакурснік, які ўдзельнічаў у конкурсе сталяроў.

На мінулым тыдні свае ўменні тут дэманстравалі будучыя сталяры і маляры. Сталяры за чатыры гадзіны павінны былі зрабіць драўляную скрыню.

Для маляроў падрыхтавалі імітацыю памяшкання, дзе яны клеілі шпалеры, рабілі дэкаратыўную тынкоўку з нанясеннем арнамента.

### Малады сталяр з Маладзечна выступаў на сусветным конкурсе

– Конкурс ладзім штогод, – кажа **Кацярына Ілюковіч**, намеснік дырэктара каледжа па вытворчым навучанні. – Каб падняць прэстыж рабочай спецыяльнасці, выбраць навучэнца, які б мог дастойна выступіць на абласным, рэспубліканскім, а магчыма, і сусветным конкурсе прафесійнага майстэрства “Ворд Скілс”.

Досвед сусветнага ўзроўню ў каледжы ўжо ёсць. Нядаўні выпускнік **Ціхан Кавальчук** з Мар’інай Горкі летась як сталяр паспяхова адолеў усе этапы, ад унутранага да рэспубліканскага. І сёлета разам са сваім майстрам вытворчага навучання **Мікалаем Цалко** прадстаўляў Беларусь на конкурсе ў Шанхаі.

– Канешне, не факт, што сярод сённяшніх трох удзельнікаў конкурсу знойдзецца такі Ціхан, – кажа Мікалай Цалко. – Але навучэнцам ёсць да чаго імкнуцца.

Па словах майстра, у падрыхтоўцы да падобных конкурсаў важныя і прафесійныя ўменні, і псіхалагічная, і фізічная падрыхтоўка.

### Кітайцы працуюць подбегам

Мікалай Цалко прыгадаў нядаўні конкурс у Шанхаі. Кажа, там адразу звяртаеш увагу, як працуюць кітайцы, японцы, карэйцы.

– Яны і робяць усё вельмі хутка, і па працоўнай пляцоўцы подбегам ходзяць, але гэта не пустая мітусня, а выверанaя і сістэматызаваныя рухі. Нам іх не дагнаць, – перакананы Мікалай Цалко.

Іншыя майстры, па назіраннях Мікалая Яўгенавіча, былі ў поце, гублялі інструменты, рабілі шмат лішніх рухаў, каб іх знайсці. І прайгравалі сваім калегам.

А вось сістэма прафесійнай адукацыі ў нас і за мяжой крыху падобная, лічыць майстар. Напрыклад, на выпускныя экзамены і ў нас, і ў Шанхаі ў камісію запрашаюць прадстаўніка арганізацыі, якая возьме на працу выпускніка.

Па словах Кацярыны Ілюковіч, правядзенне такіх конкурсаў нават у межах каледжа патрабуе немалых выдаткаў. Напрыклад, каб закупіць абсталяванне на конкурс, сантэхніку трэба аддаць каля 100 рублёў. Грошы выдзяляе кіраўніцтва каледжа з тых сродкаў, што зарабляюць пазабюджэтнай дзейнасцю.

З конкурсам паміж сталярамі крыху лягчэй: асабліва дарагіх матэрыялаў не трэба, тое-сёе з абсталявання засталося з таго часу, як рыхтавалі Ціхана.

Закупленае абсталяванне не знікае дарма. Ім карыстаюцца наступныя навучэнцы, а ўдзельнікі конкурсу разбіраюць свае памылкі.

### Выкласці з пліткі лічбу 60

Сёлета для ўдзелу майстры выбралі будучых сталяроў **Сямёна Асіповіча, Мацвея Шлойду** і **Ягора Янкоўскага.** У кожнага на стале чарцёж і малюнак гатовага вырабу.

– Раблю драўляную скрыню для захоўвання нейкіх рэчаў, – тлумачыць студэнт другога курса, хлопец з Яхімоўшчыны Сямён Асіповіч. – На працу нам далі чатыры гадзіны.

За работай хлопцаў назіраюць намеснік дырэктара па вытворчым навучанні, майстар і член журы.

– У журы мы заўсёды запрашаем незацікаўленых людзей, – распавяла Кацярына Ілюковіч. – Да маляроў прыходзіў прадстаўнік будаўнічай арганізацыі горада. Да сталяроў сёння запрасілі настаўніка працоўнага навучання першай школы. Судзяць вельмі строга, кожную дробязь заўважаюць.

Сёлета ў рамках конкурсу “Каледж-скілс” запланаваныя таксама прафесійныя спаборніцтвы паміж швачкамі, плітачнікамі, сантэхнікамі, мулярамі.

Для некаторых з іх ужо гатовыя заданні. Напрыклад, плітачнікі павінны будуць з пліткі розных колераў выкласці вялікую лічбу “60”. Яе ж з цэглы будуць рабіць муляры.

Чаму? Таму што ў наступным годзе маладзечанскі прафесійна-тэхнічны каледж будзе святкаваць 60-годдзе.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Пяць тысяч еўра за кнігу, звязаную з Вілейшчынай:
## прэмію Гедройця атрымаў Зміцер Бартосік

ВІЛЕЙКА

У Мінску 31 кастрычніка абвясцілі пераможцу літаратурнай прэміі імя Ежы Гедройця. Уладальнікам галоўнай узнагароды і чэка на 5000 еўра стаў Зміцер Бартосік, аўтар кнігі “Быў у пана верабейка гаварушчы”. Кніга выйшла ў серыі “Бібліятэка Свабоды”.

Кніга ўяўляе сабой дарожныя нататкі.

Зміцер Бартосік, рыхтуючы радыёпраграму “Падарожжы Свабоды”, пабываў прыкладна ў 500 вёсках Беларусі. Вілейшчына паказаная ў кнізе вёскамі Суднікі, Навасёлкі, Сакалоўка і Касцяневічы.

– Ёсць такія вёскі, – распавёў Зміцер, – якія вельмі ўражваюць і запамінаюцца надоўга.

Да такіх, па словах журналіста, адносяцца Суднікі, што на Вілейшчыне. Гэта вёска “зачапіла” Змітра не столькі ваеннай, як пасляваеннай гісторыяй. Запомнілася, што ў 1945-1946 гадах там яшчэ напоўніцу ішла “вайна пасля вайны”. Гучала стральніна, па лясах хаваліся банды, людзі, якія не хацелі ісці служыць у савецкую армію, выступалі супраць саветаў. Прычым гэта быў не адзін чалавек, не два, а цэлыя атрады.



Зміцера Бартосіка зачапілі многія вёскі Вілейшчыны. Фота belnovosti.by

– Як прыгадаеш, якім антысавецкім кутком была Вілейшчына, адразу разумееш, адкуль тут столькі беларускіх пісьменнікаў і бардаў.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# МТС запустил 4G в Сморгони

**Компания МТС запустила услуги 4G в Сморгони. Теперь горожане смогут оценить преимущества связи четвертого поколения. Кроме того, в Гродненской области скорости 4G впервые стали доступны в Волковыске, Островце, Кореличах, Мостах, Большой Берестовице и Щучине. Всего сеть LTE МТС охватывает около 80 городов и поселков Беларуси.**

4G в новых городах – повод стать ближе!

4G — это технология, которая отличается от 3G и 2G более высокими скоростями передачи данных и меньшим временем отклика сети. И это главные преимущества для пользователей мобильного интернета. Трафик в 4G предоставляется по тем же тарифам, что и для 3G, 2G, в зависимости от тарифного плана, которым вы пользуетесь. Убедиться в том, что смартфон или планшет поддерживает 4G, можно с помощью USSD-запроса *464#. Обычно гаджеты сами «ловят» 4G, но подключить девайс можно и вручную.

В Беларуси первым среди мобильных операторов оказывать услуги 4G стала компания МТС. Сначала новая технология заработала в Минске и областных центрах, сейчас ее запускают в районах.

СООО «Мобильные ТелеСистемы»
УНП 800013732

# У Ашмянах выбралі лепшых повараў і кандытараў

АШМЯНЫ

**Абласны конкурс прафесійнага майстэрства сярод повараў, афіцыянтаў і кандытараў арганізацый спажывецкай кааперацыі прайшоў у райцэнтры 26-27 кастрычніка.**

– У нас быў досвед арганізацыі падобнага мерапрыемства, – распавяла старшыня пярвічнай прафсаюзнай арганізацыі Ашмянскага філіяла Гродзенскага абласнога спажыўтаварыства **Ала Ахрамовіч**. – Тры гады таму мы ладзілі рэспубліканскі конкурс. Сёлета ўжо ведалі з чаго пачынаць, таму было лягчэй.

Аднак вынік конкурсу апраўдаў затрачаныя высілкі, упэўненыя арганізатары:

– Вы б толькі бачылі, гэта проста шэдэўры, – дзеліцца ўражаннямі Ала Ахрамовіч. – Нават не магу сказаць, стравы былі прыгажэйшыя ці смачнейшыя. Неверагодна смачныя і пры гэтым вытанчана афармленыя. Наколькі ж трэба любіць сваю прафесію, каб атрымалася такая прыгажосць.

Конкурс праходзіў па некалькіх намінацыях. Повараў чакаў паядынак па прынцыпе чорнай скрыні: ім прыносілі набор з 32 прадуктаў, а праз гадзіну трэба было паказаць закускі, якія яны змаглі зрабіць. Што гэта будуць за прадукты, удзельнікі загадзя не ведалі. Сярод іх былі курынае філе, зяляніна, гародніна, фрукты. Выкарыстаць можна было частку, а можна і ўсе.

– Калі адкрывалі чорную скрыню, ва ўдзельнікаў прамільгнула разгубленасць, – расказвае супрацоўніца ашмянскага філіяла. – Але літаральна праз секунду ў вачах загаралася ўспышка – і яны пачыналі ствараць.

Як мяркуюць арганізатары, прафесійны конкурс – выдатная магчымасць вучыцца ў калег, развіваць сваё майстэрства і дзяліцца сваім досведам і фантазіяй. Конкурс стаў таксама праверкай на ўменне працаваць у камандзе. Адначасова трэба было працаваць на адной кухні, што патрабавала разумнай арганізацыі працы.

– Калі канкурсанты выносілі работы, у іх вачах быў гонар, – прыгадвае Ала Ахрамовіч. – І ім сапраўды ёсць чым ганарыцца. Мяркую, што ў штодзённай працы яны будуць выкарыстоўваць тыя набыткі, якія атрымалі ад калег і конкурсу.

Удзельнікі стварылі не толькі смачныя стравы і прысмакі, але і прыгожыя. І паказвалі іх з гонарам.

Журы абрала лепшым поварам **Алену Александровіч** з Мастоў, лепшым кандытарам – **Вольгу Радзецкую** з Ваўкавыска. Найсмачнейшыя пельмені атрымаліся ў **Наталлі Табашнікавай** з Зэльвы, а кава – у **Анжэлы Чмігеры** са Шчучына. Сярод афіцыянтаў пераможцамі сталі **Марыя Дашко** з Ваўкавыска і **Самір Карымаў** з Іўя.

Ашмянская кандытарка **Жанна Павілойць** заняла трэцяе месца.

– Было вельмі складана, але і цікава, – кажа фіналістка. – Многаму навучылася ад калег. Для конкурсу рабіла вясельны торт, гэта было дамашняе заданне. На самім мерапрыемстве рабіла дзіцячую кампазіцыю – тортцік, упрыгожаны поні і рознакаляровым дражэ. На такую тэму натхніла дачка **Віка**, яна вельмі любіць поні!

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 26.10 | 2.11 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 1,9557 | **1,9760** |
| Еўра | 2,3011 | **2,2988** |
| Злоты, 10 | 5,4351 | **5,4319** |
| Расійскі рубель, 100 | 3,3960 | **3,3961** |
| Грыўня, 100 | 7,3042 | **7,3512** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ"** | **25.10** | **1.11** |
| Еўра | 2.2880/2.3030 | **2.2920/2.3070** |
| Долар ЗША | 1.9470/1.9590 | **1.9700/1.9820** |

ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 25.10 | 1.11 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 16,85 | **16,85** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,10 | **3,10** |
| Сасіскі "Малочныя", 1 кг | 6,98 | **6,98** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 9,00 | **8,50** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,15 | **4,15** |
| Селядзец, 1 кг | 3,80 | **3,80** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 14,80 | **14,80** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,50 | **1,50** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,70 | **1,45** |
| Алей "Залатая семачка", 1 л | 2,80 | **2,80** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 5,20 | **5,20** |
| Маянэз, 200 г | 0,95 | **0,95** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,90 | **1,90** |
| Яйкі курыныя С1, 1 дз. | 1,50 | **1,60** |
| Агуркі, 1 кг | 3,50 | **3,35** |
| Бульба, 1 кг | 0,35 | **0,25** |
| Буракі, 1 кг | 0,60 | **0,60** |
| Гарбуз, 1 кг | 1,00 | **1,00** |
| Кабачкі, 1 кг | 1,00 | **1,00** |
| Капуста, 1 кг | 0,40 | **0,30** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 1,60 | **1,90** |
| Морква, 1 кг | 0,50 | **0,55** |
| Памідоры, 1 кг | 2,75 | **2,75** |
| Перац, 1 кг | 1,99 | **2,29** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,70 | **0,70** |
| Часнок, 1 кг | 4,95 | **4,95** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Бананы, 1 кг | 1,89 | **2,29** |
| Вінаград, 1 кг | 2,99 | **2,99** |
| Гранат, 1 кг | 4,00 | **3,95** |
| Грушы, 1 кг | 2,99 | **3,50** |
| Грэйпфрут, 1 кг | 3,50 | **3,30** |
| Дыня, 1 кг | - | **3,00** |
| Кавун, 1 кг | 1,00 | **0,75-1,00** |
| Ківі, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Лімоны, 1 кг | 3,85 | **3,85** |
| Мандарыны, 1 кг | 3,95 | **3,95** |
| Хурма, 1 кг | 3,20 | **2,50** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,20 | **1,10** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,80 | 1,80 |
| Масла, 1 кг | 12,00 | 12,00 |
| Мёд, 0,5 л | 7,00-8,00 | 7,00-8,00 |
| Сала, 1 кг | 11,00 | 11,00 |
| Тварог, 1 кг | 6,00 | 6,00 |
| Яйкі, 1 дзясятак | 2,80-3,00 | 2,80-3,00 |

НАВІНЫ

## Следчыя завяршылі справу па забойстве пенсіянеркі

МАЛАДЗЕЧНА

У ліпені "Рэгіянальная газета" пісала пра забойства пенсіянеркі на Маладзечаншчыне.

Як распавёў "РГ" старшы следчы маладзечанскага РАСК **Юры Багушэвіч**, днямі следчыя скончылі справу і перадалі яе пракурору.

Нагадаем, што цела 66-гадовай пенсіянеркі ў доме ў вёсцы Кізілава 10 ліпеня знайшлі суседзі.

Міліцыя затрымала падазронага – 27-гадовага мужчыну, які быў раней судзімы.

Яго абвінавачвалі ў забойстве з асаблівай жорсткасцю.

Па словах Юрыя Багушэвіча, падазраваны прызнаў сваю віну.

Правялі псіхіятрычную экспертызу і высветлілі, што на момант забойства мужчына ўсведамляў свае ўчынкі, аднак пакутаваў ад алкагольнай залежнасці.

## За падробку медыцынскай даведкі завялі крымінальную справу

МАЛАДЗЕЧНА

Сёлета ў верасні маладзечанец набыў машыну. Вырашыў афарміць яе на сябе, прайсці тэхагляд і ездзіць. Аднак усё атрымалася не зусім так.

Сярод дакументаў, якія мужчына прывёз на тэхагляд, была медыцынская даведка. Супрацоўніца станцыі тэхабслугоўвання заўважыла, што даведка падробленая, і патэлефанавала ў РАУС.

**Мужчына не хацеў рабіць новую даведку, неабходную кіроўцам раз у тры гады. Знайшоў за 2013 год, выправіў тройку на пяцёрку.**

24 кастрычніка справу перадалі ў суд, распавёў старшы следчы маладзечанскага РАСК Юры Багушэвіч.

## За адну ноч абакралі лецішча, ФАП і вясковы магазін

МАЛАДЗЕЧНА

Раніцай 26 кастрычніка мясцовая жыхарка з вёскі Ласі патэлефанавала ў міліцыю і паведаміла, што нехта, відаць, залазіў у вясковую краму.

Міліцыянеры высветлілі, што двое маладых раней судзімых мужчын каля трох гадзін ночы ўзламалі замок і ўлезлі ў магазін, адкуль вынеслі спіртное, прадукты і выручку. Усяго на тысячу рублёў. Аднаму з фігурантаў 23 гады, другому – 31.

Падчас расследавання справы стала вядома, што ў тую ж ноч, да таго, як улезці ў краму, мужчыны абакралі лецішча і фельчарска-акушэрскі пункт у Ласях.

З ФАПа яны вынеслі ўсе спіртаўтрымальныя вадкасці.

– Пакуль справу завялі толькі адносна магазіна, – кажа старшы следчы маладзечанскага РАСК Юры Багушэвіч. – Аднак будуць у адносінах да гэтых двух і іншыя справы.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## У Маладзечне "Дэу" наехала на пешахода

МАЛАДЗЕЧНА

Каля 7:30 раніцы 27 кастрычніка ў Маладзечне 28-гадовы кіроўца ехаў на аўтамабілі "Дэу-Нубіра".

Машына наехала на 16-гадовага мясцовага жыхара, які пераходзіў праезную частку дарогі па нерэгуляваным пешаходным пераходзе. У выніку пешахода з атрыманымі траўмамі шпіталізавалі.

Нагадваем: пры пад'ездзе да пешаходнага перахода, кіроўца павінны знізіць хуткасць, аж да спынення транспартнага сродку, каб саступіць дарогу пешаходам.

Калі перад пешаходным пераходам спыніўся, стаіць ці замарудзіў рух аўтамабіль, то кіроўцы іншых, якія рухаюцца па суседніх палосах руху ў спадарожным накірунку, павінны знізіць хуткасць руху і пры наяўнасці пешаходаў саступіць ім дарогу.

**Паводле ДАІ Мінскай вобласці.**





Фота news.flarus.ru.

Скрадзены інструмент кіроўца не змог вывезці за межы будпляцоўкі.

# Скраў балгарку з БелАЭС

АСТРАВЕЦ

**Л. працаваў кіроўцам чатыры гады ў арганізацыі, што абслугоўвае БелАЭС. За ім быў замацаваны службовы аўтобус "ПАЗ".**

Вечарам 30 чэрвеня Л. забраў работнікаў арганізацыі з будпляцоўкі і развёз у Астравец па дамах. Пасля вярнуўся на тэрыторыю вытворчай базы станцыі.

"У аўтобусе рабіць не было чаго, таму пайшоў у арматурны цэх", – прыгадваў Л. на допыце. У цэху нікога не было, напэўна, спецыялісты працавалі на іншых участках.

На бетонный падлозе каля металічнай калоны мужчына заўважыў вуглавую шліфавальную машыну маркі "Бош". Побач ляжала ўпакоўка адразных металічных кругоў. Балгарка ляжала без каробкі, выглядала, як новая. Прыкінуўшы, што інструмент спатрэбіцца ў гаспадарцы, Л. вырашыў яго скрасці.

Побач нікога не было, мужчына проста забраў балгарку і пакет з 25 адразнымі кругамі і пайшоў у службовы аўтобус. Склаў скрадзенае ў свой пакет і схаваў каля сядзення кіроўцы.

Затым мужчына накіраваўся на запраўку ў Міхалішкі. Для выезду трэба было праехаць КПП №4. Л. спыніў кантралёр, адзначыў яго электронны пропуск і дазволіў праязджаць. Хаця кантралёр правяраў аўтобус, скрадзенае не заўважыў.

Затым кіроўца паехаў да КПП №11, дзе яго спыніў супрацоўнік службы бяспекі АЭС. Ён патрабаваў адчыніць аўтобус для дагляду, знайшоў пакет са скрадзеным і выклікаў міліцыю.

Кіроўца ведаў, што пры выездзе яго будуць правяраць. Аднак вырашыў рызыкнуць.

Л. прызнаў сваю віну цалкам, што стала змякчальнымі абставінамі.

**Суд прыгаварыў Л. вінаватым у замаху на крадзеж і прызначыў пакаранне – штраф у памеры 35 базавых велічынь (805 рублёў).**

Балгарку і адразныя кругі перадалі гаспадару, фірме, у якой працаваў Л.

Асуджанаму 47 год. Жыве ў Мядзельскім раёне, раней не судзімы, жанаты.

**Дзмітры БАГДАНОВІЧ,**
**старшы памочнік пракурора Астравецкага раёна.**

## Адкрываюць паляванне ва ўгоддзях Вілейшчыны і Мядзельшчыны

ВІЛЕЙКА, МЯДЗЕЛ

**Ад 4 лістапада 2017 да 28 студзеня 2018 года ў паляўнічых угоддзях Нацыянальнага парку "Нарачанскі", вілейскага доследнага лясгаса і беларускага таварыства паляўнічых і рыбаловаў адкрываецца паляванне на зайца-русака, зайца-беляка, вавёрку звычайную, куніцу лясную, куніцу каменную, тхара лясного, норку амерыканскую, андатру.**

Ружэйнае паляванне дазваляюць у зонах, адкрытых для палявання на дробную дзічыну ў светлы час сутак па суботах, нядзелях, панядзелках і дзяржаўных святах, а на тэрыторыях вілейскага лясгаса і таварыства паляўнічых і рыбаловаў яшчэ і ў аўторак.

Пры паляванні на гэтыя віды дзічыны можна выкарыстоўваць гладкаствольную зброю з патронамі, начыненымі толькі шротам.

Падчас палявання забараняецца страляць на шум, шорах, па дрэнна бачнай цэлі, у тумане, у прыцемках, у моцны снегапад. Нельга знаходзіцца з зараджанай паляўнічай зброяй на адлегласці менш за 200 метраў ад крайняга будынка населенага пункта.

Пры перамяшчэнні на транспарце па аўтамабільных дарогах агульнага карыстання паляўнічая зброя ў абавязковым парадку павінна быць зачахлёная і разраджаная пры пераадоленні розных перашкод, падыходзе да месца прывалу і збору, пры сустрэчы з работнікамі, якія ахоўваюць паляўнічых жывёл у паляўнічых угоддзях.

Пра выпадкі парушэння прыродаахоўнага заканадаўства можна паведаміць па тэлефоне 8 (0179) **750740** у Мядзельскую міжраённую інспекцыю, па тэлефоне даверу ў Мінску па нумары 8 (017) **3900000** або па **102.**

Усю атрыманую інфармацыю ў абавязковым парадку правераць.

**Уладзіслаў МІНЯНКОЎ,**
**старшы дзяржінспектар Мядзельскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.**

# ПОЧЕМУ СТОИТ ОТКРЫТЬ ВКЛАД В БАНКЕ ИМЕННО В «БЕЛКАХ»?

Живем от зарплаты до зарплаты, нередко приходится одалживать, а накопить на отпуск или дачу – нечто из области фантастики. Знакомо? Если да, то ситуацию может исправить не только свалившееся с неба наследство или выигрыш в лотерею.

Чтобы перестать жаловаться на низкую зарплату и стать увереннее в своих финансовых возможностях, иногда достаточно перестроиться с режима «есть деньги – моргнул – нет денег» на то, что деньгами можно управлять, и это по силам человеку с любым доходом и уровнем экономической грамотности.

### В ЧЕМ ХРАНЯТ ДЕНЬГИ БЕЛОРУСЫ?

Некоторые белорусы все еще считают, что нет надежней банка, чем трехлитровая банка. Так, продажа наличной валюты в августе превысила покупку. Однако все больше жители понимают, что деньги должны приносить доход.

По данным Национального банка, на белорусском рынке укрепляется тенденция вкладов в рублях. Депозиты в белорусских рублях увеличились на 11,4% с начала года. А вот что касается иностранной валюты, то вкладов в ней становится все меньше.

Белорусы все чаще предпочитают открывать счета в национальной валюте. И это не случайная тенденция, она продиктована более выгодными условиями для тех, кто идет в банк с "белками".

### ПОЧЕМУ РУБЛЕВЫЕ ВКЛАДЫ СЕЙЧАС ВЫГОДНЕЕ ВАЛЮТНЫХ?

Первый вопрос, с которым сталкивается новый вкладчик – в какой валюте открывать счет. Определиться в этом можно, лишь изучив предложения на рынке.

Например, безотзывной вклад "МТБелки online" на 12 месяцев предлагает 11,7% годовых, если счет открыт в белорусских рублях, что на данный момент является самым выгодным предложением на рынке. Если же депозит валютный, то ставка составит всего 1,25%.

## РУБЛЕВЫЙ vs ВАЛЮТНЫЙ

МАКСИМАЛЬНАЯ СТАВКА*

*БЕЗОТЗЫВНОЙ ОНЛАЙН ДЕПОЗИТ СРОКОМ НА 12 МЕСЯЦЕВ




**Считаем: рублевый вклад принесет почти в 10 раз больше доход!**

Некоторые делят общую сумму вклада на несколько валют, опасаясь скачков курса. Однако если вы хотите выжать из сбережения максимум, получить из них как можно большую выгоду, выбор очевиден – открывать депозит нужно в национальной валюте.

Тенденция на валютном рынке такова, что депозиты в долларах или евро будут и дальше терять позиции. А пока ставки для "белок" выглядят так выигрышно, почему бы на них не заработать?

### ЗАЧЕМ ИДТИ В БАНК?

Итак, мы поняли, что теперь на рынке вкладов более перспективен белорусский рубль. А зачем вообще стоит заниматься депозитом?

1. Чтобы заработать. Если деньги просто лежат в комоде, они не приносят прибыль. Когда же вы вложили деньги, банк начисляет проценты. Их размер зависит, от того, какую сумму вы принесли, на какой срок вкладываете и под какой процент.

2. Собирая деньги «в комоде» всегда будет соблазн потратить их при малейшей сложности. Также вы всегда можете быть уверены в сохранности и безопасности хранения собственных средств. В банке они будут целее, а вы научитесь планировать расходы исходя из бюджета, а не потребностей.

3. Откладывайте ежемесячно не менее 10% своего дохода, тем самым создавая надежный финансовый резерв.

### КАК ВЫБРАТЬ ПРЕДЛОЖЕНИЕ ВКЛАДА?

Если вы никогда раньше не сталкивались с депозитами, или иначе вкладами, вам нужно знать лишь несколько нюансов.

Все вклады делятся на отзывные и безотзывные. Отзывные выбирают те, кто хочет иметь возможность снять деньги в любой момент. В этом случае вы не теряете процент, который успел набежать, но ставка будет ниже, чем в безотзывных.

Безотзывные предполагают, что вы вкладываете деньги на конкретный оговоренный срок – 1, 6, 12 месяцев и так далее. На них вы зарабатываете больше, но забрать сможете лишь в тот день, который стоит по договору. Только в исключительных случаях можно вернуть деньги раньше срока, но это решение принимает сам банк. Так что более привлекательный по прибыли безотзывной вариант стоит выбрать, если вы точно знаете, что сможете обойтись без вложенной в депозит суммы.

Следующее, с чем нужно определиться вкладчику – выбирать ли вклад с капитализацией. Это функция позволяет увеличить доход. Процент, который вы получаете ежемесячно, становится частью общего вклада, и доход в следующем месяце будет считаться от новой, большей суммы.

"МТБанк" предлагает даже больше – двойную капитализацию. Это значит, что проценты к общей сумме вклада начисляют дважды в месяц, а не один раз. А это еще больше увеличит прибыль вкладчика.

Клиенту банка следует учесть и налог. С процентного дохода придется выплатить 13% государству.

Избежать этого возможно, если открыть долгосрочный безотзывной депозит. И здесь привлекательнее предложение для национальной валюты – налогом не облагаются вклады сроком от одного года. С валютных депозитов не выплачивают налог, если они открыты не менее, чем на два года.

Таким образом, самый выгодный вклад – безотзывной в белорусских рублях с капитализацией и не менее, чем на один год.

### КАЛЬКУЛЯТОР: ДАВАЙТЕ ПОСЧИТАЕМ, ЧТО МЫ ПОЛУЧАЕМ

Именно такое предложение есть у линейки вкладов «МТБелки» от МТБанка. Здесь безотзывной онлайн-депозит на 12 месяцев открывают под 11,7%. Получается, что если в ноябре вы вложите 1 000 рублей, то через год кроме своей тысячи заберете 123,8 рубля с учетом двойной капитализации процентов. Чем плох такой подарок в начале подготовки к Новому году?

«МТБелки» имеют ряд предложений для вкладчиков. Начать можно с минимальной суммы вклада – 50 рублей. Жители Молодечно могут прийти в офис банка и проконсультироваться, какой вариант депозитов будет наиболее выгодным для них. Однако жителям Молодечненского, Вилейского, Сморгонского, Воложинского, Мядельского, Ошмянского и Островецкого районов не стоит унывать.

### И УДОБНО, И ВЫГОДНО: ОТКРЫТЬ ДЕПОЗИТ МОЖНО НЕ ВЫХОДЯ ИЗ ДОМА

На вкладе можно заработать еще больше, причем более удобным способом. Для этого достаточно оформить онлайн-депозит "МТБелки" не выходя из дома. Это могут сделать жители любых городов и деревень Беларуси. При оформлении через интернет банк повышает ставки для вкладчика. Депозит на 7 месяцев, оформленный самостоятельно онлайн, принесет 11% дохода, 9 месяцев – 11,5%, а годовой – 11,7%. Пусть ваши "белки" крутятся и приносят прибыль!




Размеры ставок актуальны на 01.11.2017



# Куплю Прадам Зраблю

## Дзе падаць аб'яву

| | |
|---|---|
| **МАЛАДЗЕЧНА** | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. (80176) **537804, 8 (029) 6768420.** |
| **АСТРАВЕЦ** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. (801591) **21140.** |
| **АШМЯНЫ** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. (801593) **22211.** |
| **ВАЛОЖЫН** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. (801772) **55542, 55237.** |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. Партызанская, 44, магазін "Парус". Тэл. (801771) **20083, 20103.** |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. (801771) **55233, 55539.** |
| **СМАРГОНЬ** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. (801592) **33077.** |
| **МЯДЗЕЛ** | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. (801797) **55266, 55765.** |

* *Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў Інтэрнэце на сайце* **Rh.by**

## ВІНШАВАНКА

**Ірыне Чаславаўне ЖАЎНЯРОВІЧ з Маладзечна!**



Дарагая наша! Віншуем цябе з днём нараджэння!

Жадаем моцнага здароўя, сямейнага дабрабыту, бадзёрасці духу і душэўнага спакою.

*Примите наши поздравления!*
*Желаем сил и вдохновения,*
*Любви огромной,*
*море счастья,*
*Вниманья близких и участья.*
*Пусть дом Ваш будет полной*
*чашей,*
*Удача будет в жизни Вашей.*
*Хорошей в доме Вам погоды,*
*Пусть стороной пройдут*
*невзгоды.*
*Льется шампанское рекой,*
*Ведь праздник-то у нас какой!*
*Родные, близкие, друзья*
*Желают радостного дня!*

**З павагай, сын Аляксандр, нявестка Таццяна і сваты з Вілейкі.**

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

- ВАЗ-2104, 1999 г.в., 1,6 бензін, 600 руб. Т. Вэлком (8-029) 3833307.*
- ВАЗ-21063, 1989 г.в., бэжавы колер. Т. (8-029) 1798400.*





- Гольф-7, 2014 г., Опель-Зафіра, 2014 г., торг. Т. (8-029) 3063523.*
- Мерсэдэс 190Е, седан, 1985 г.в., 1200 рублёў, торг. Т. (8-029) 8630498.
- Опель-Астра Н, 2009 г.в., 3-дзверны, хэтчбэк, 1,4 бензін, эл. пакет, аўдыёсістэма, ПБ, цэнтральны замок. Т. (8-029) 3388719, (8-029) 3202841, (8-029) 8524594.
- **АЎТАШКЛО. ПРОДАЖ, УСТАНОЎКА. ЯКАСНА, ПРАФЕСІЙНА. ГАРАНТЫЯ.** Наяўны, безнаяўны разлік. ЧСУП "АртАлексСэрвіс" УНП 690639270. Т. (8-029) 7766637, (8-044) 7766637. *
- **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*
- Рызіна R17235/60 Nokian,4 штукі, зіма.Т. (8-029) 5519902.*

### КУПЛЮ

- Аўто ў любым стане. Т. (8-029) 1261119.*
- **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 6170681.***
- Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 9961242.*
- Аўто, можна аварыйнае. Т. (8-029) 5677052. *
- Любое аўто на ходу. Грошы адразу. Т. (8-029) 2016100.*

### ІНШАЕ

- Антыкаразійны цэнтр DINITROL. Апрацоўка днішча, колавых арак, схаваных поласцяў. Гарантыя ад 3 да 7 гадоў. Дыягностыка кузава і кансультацыя – бясплатныя. Наяўны, безнаяўны разлік. Маладзечна, зав. Лазневы, 10 (раён школы №1). ІП Блоцкая В. М. УНП 691898138. Тэл. Вэлком 8 (029) 3239999, МТС (8-033) 3239999.*

### ПАСЛУГІ

- **МІНІ-ЭКСКАВАТАРА**, усе віды земляных работ. ІП Матусевіч Ю І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868, (8-0176) 778888.*
- Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м), экскаватара-пагрузчыка Фіят-Хітачы і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка ўласным тралам. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*
- Паслугі экскаватара ЮМЗ. Усе віды земляных работ. Самазвал 10 т. ІП Крэнць С.М. УНП 692015814. Т. (8-044) 5543967, (8-029) 8762233.*



## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

- 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, новабудоўля, 2016 г., цэгла, 2-гі паверх. Т. (8-029) 6119180, (8-033) 6626858.*
- 1-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Маладзёжнай, д.2, кв. 15. Агульная плошча 31,5 кв.м, жылая – 17,5 кв.м. Агарод 2 соткі, вокны ПВХ, склеп. Т. Вэлком 1261673.*
- 1-пакаёвая кватэра ў Маладзечне, 1 паверх, 35 кв. м, раён Гелянова. Т. (8-044) 4529416.*
- 2-узроўневы дом ў Вілейцы, цэгла, 110 кв. м, усе камунікацыі, 11,5 соткі зямлі альбо мяняю на кватэру ў Мінску. Т. (8-01771) 56170, (8-029) 6940541.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, вул. Гагарына, 2 паверх, з еўрарамонтам. Нацяжная столь, ламінат, шклопакеты, італьянская плітка, замененыя праводка, трубы. Побач лес, басейн, д/сад, магазіны і інш. Т. (8-029) 6958714.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, раён Зеніт. Т. (8-029) 6305419.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Мядзеле ў 2-павярховым доме на 2-м паверсе. Т. МТС (8-029) 8732688.
- Гараж у Вілейцы, вул. Незалежнасці. Т. (8-029) 5604815.*
- Гараж у ГБК-4 "Зеніт", насупраць прыпынку вакзала ў Вілейцы, памер 3х6 м, ёсць яма, сцяжка падлогі бетонная. Столь падшытая, дзверы уцепленыя. Ёсць тэхпашпарт. Т. (8-029) 6585886, (8-029) 5571454.
- Гараж, высокія вароты ў 11 кааператыве г. Маладзечна, 6 мікраён. Т. МТС (8-029) 7602238.
- Дом драўляны ў добрым стане, нарачанскі напрамак, 8 км ад Вілейкі, 16 сотак, калодзеж, склеп. Т. (8-044) 7587148.*
- Дом жылы ў Маладзечне, газавае ацяпленне, 7 сотак, нядорага. Т. (8-029) 6691789.*
- Дом у в. Порса, участак 20 сотак. Т. (8-029) 1214671.*
- Дом у в. Снежкава (прыгарад Вілейкі). Т. (8-029) 2581605.*
- Садовы ўчастак у кааператыве "Брыльянт" у вёсцы Ласі, ад чыгуначнага прыпынку 1400 м. Блочны домік, хлеўчык (сарай), агарод, ягаднік – за невялікую цану. Т. (8-0176) 551631, (8-033) 6407558.*

### ЗДАМ

- Здам у арэнду ізаляванае памяшканне ў будынку магазіна ў Вілейцы. ІП Ліхачоў М.В. УНП 600438977 Т. (8-029) 5551515.*
- Здам пакой маладому спецыялісту ў Маладзечне. Т. (8-029) 5719435.*



## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

- Вясёлы тамада, жывая музыка, разумныя цэны. Т. (8-033) 3400865. Васкабовіч А.А.*

### ФОТА-, ВІДЭАЗДЫМКА

- АМ-Відэа. Відэаздымка і мантаж вясельных фільмаў, карпаратываў, мерапрыемстваў. Якасць HD. ІП Малько А.Г. УНП 691291314. Т. Вэлком (8-029) 8745891.*
- **ФАТОГРАФ. ВЯСЕЛЛІ. ПАМЯТНЫЯ ДНІ. СЯМЕЙНАЕ ФОТА. LOVE STORY. ПАРТРЭТЫ. ЛІЧБАВАЯ І СТУЖКАВАЯ ФАТАГРАФІЯ. Юркоў У.А. Т. (8-044) 5745873.***

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

- Мерсэдэс-508, тэнт, да 3 тон + 5 пасажырскіх месцаў, па горадзе і РБ. Кватэрныя пераезды. Вываз смецця. Грузчыкі. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*
- Грузаперавозкі. Бус 1,5 тоны. Т. (8-029) 1921299. ПУП "Дойлід-С" УНП 600077312.*
- Грузаперавозкі. Фура-борт, 20 тон. Т. (8-029) 1921299. ПУП "Дойлід-С" УНП 600077312.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

- Спілуем дрэвы любой складанасці. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*
- Аграсядзіба, **ЛАЗНЯ**. Vslobode.by ІП Камінскі А.Н. УНП 192737618. Т. (8-029) 6130457.*
- Бурэнне свідравін (скважин) на ваду. Хутка. Нядорага. Акцыі. Скідкі. ІП Янцэвіч А.Г. УНП 590945450 Т. МТС (8-029) 7860317, Вэлком (8-029) 1287878.*
- Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*
- Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*
- **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катараў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*
- **ДЫПЛОМНЫЯ, КУРСАВЫЯ, СПРАВАЗДАЧЫ ПА ПРАКТЫЦЫ.** Права, справаводства, архівазнаўства, ідэалогія, паліталогія і інш. гуманітарныя дысцыпліны дапаможа напісаць кандыдат навук. E-mail: 6661741@mail.ru. ІП Крывіцкі Л.В. УНП 190609577. Т. (8-029) 6661741 (з 14-00 да 17-00 або з 21-30 да 23-30, штодзённа).*

МІЖНАРОДНАЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА: БЕЛАРУСЬ – ГЕРМАНІЯ

# Зносіны, клопат, давер:

## што паказвалі на здымках удзельнікі фотамарафону

МАЛАДЗЕЧНА

**Як на фотаздымку можна паказаць падтрымку, цярплівасць, зносіны, кампраміс, мусілі вырашаць удзельнікі беларуска-нямецкага фотамарафону “Дружба”.**


Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

Удзельнік марафону Віктар Летуноў з фотаапаратам не разлучаўся і падчас узнагароджання.

Фотамарафон ладзілі ў Маладзечне першы раз. А праводзілі яго ў межах традыцыйных тыдняў Германіі ў Беларусі, якія пачаліся 22 верасня і доўжыліся да канца кастрычніка.

У юбілейны год аднаўлення беларуска-германскіх дыпламатычных адносін Пасольства Федэратыўнай Рэспублікі Германія праводзіла цікавыя мерапрыемствы па ўсёй краіне для тых, хто хоча пазнаёміцца з культурай, мовай і грамадствам Германіі.

### 12 фотаздымкаў на 12 тэм за 12 гадзін

Не стала выключэннем і Маладзечна. 28 кастрычніка ў 17:00 у зале літаратуры на замежных мовах цэнтральнай раённай бібліятэкі імя Максіма Багдановіча па выніках фотамарафону арганізавалі фотавыставу “Freundschaft” (“Дружба”) у фармаце фотасушкі.

Аднак выстава – гэта вынік фотамарафону. А пачыналася ўсё 30 верасня. Тады ў бібліятэцы сабраліся людзі, якія цікавяцца фатаграфіяй. Хтосьці з іх здымае перыядычна, хтосьці – час ад часу.

Сэнс марафону заключаўся ў наступным. Удзельнікі за 12 гадзін робяць 12 фотаздымкаў па 12 тэмах. Сюжэты для сваіх фотатвораў удзельнікі шукалі, ходзячы па вуліцах горада. Таму арганізатары адразу звярталі увагу на тое, каб удзельнікі былі ў зручным адзенні і абутку.

– Першапачаткова планавалі прымаць толькі ўдзельнікаў ад 16 гадоў, – распавяла **Таццяна Летунова**, бібліятэкарка, адна з арганізатараў фотамарафону. – Але падчас рэгістрацыі было столькі званкоў ад падлеткаў, якім не было 16 год, што мы вырашылі крыху панізіць узроставую мяжу. Параіліся з калегамі з Баранавічаў і Брэста. У іх была падобная сітуацыя.

### Як усё пачыналася

30 верасня ў 10 гадзін удзельнікі фотамарафону сабраліся ў бібліятэцы, атрымалі першыя тры тэмы для фотаздымкаў і на дзве з паловай гадзіны пайшлі па горадзе выконваць заданні. У вызначаны час зноў сабраліся ў бібліятэцы і скінулі на ноўтбук выкананыя заданні.

Атрымалі наступныя. І дзейнічалі па ранейшай схеме. Апошні раз фатографы выправіліся на здымкі ў 18:00, а свае фота скінулі ў бібліятэку на электронную пошту.

– Мы вельмі хваляваліся, як адбудзецца фотамарафон, – дзеліцца Таццяна Летунова. – Бо гэта першае падобнае мерапрыемства ў Маладзечне. А яшчэ тэмы нам падаліся вельмі складанымі. Ды і надвор’е зусім не спрыяла.

Згодны з Таццянай і маладзечанскі фатограф **Яўген Стэльмах**, старшыня журы фотамарафону. Ён лічыць, што і часу на здымкі варта было даць больш, і тэмы не такія складаныя. Ды і ўмовы надвор’я цяпер магчыма крыху прадугледзець.

Па словах Яўгена, выязджаючы здымаць захад ці ўсход, ён заўсёды кіруецца парадамі сіноптыкаў. І калі тыя абяцаюць бязвоблачнае надвор’е, то звычайна так і бывае.

### Як на фотаздымку ўвасобіць кампраміс?

Што ж павінны былі ўвасобіць у сваіх фотаздымках удзельнікі? Тэмы былі наступныя: “Клопат”, “Падтрымка”, “Сварка”, “Цярплівасць”, “Кампраміс”, “Вернасць”, “Давер”, “Сакрэт” і іншыя. Атрымаўшы такія тэмы, мы самі былі ў шоку, дзеліцца Таццяна Летунова.

Прапанаваныя тэмы ўдзельнікі ўбачылі па-рознаму. Хтосьці на здымку сварка паказаў дзе сумныя дзяўчыны, а ў кагосьці – два коцікі, якія глядзяць у розныя бакі.

Падчас ацэнкі работ нярэдка ўзнікалі дыскусіі. Напрыклад, на тэму “Вернасць” фатограф прапанаваў вясельны фотаздымак. Аднак, на думку журы, фотаздымак першага дня сямейнага жыцця – далёка не паказчык вернасці.

У журы былі два фатографы, два мастакі, бібліятэкар і дырэктар бібліятэкі. Кожны ставіў свае балы, якія пасля складаліся. Звярталі ўвагу на якасць фотаздымкаў, на тое, ці ўсе заданні выканаў удзельнік. Пасля вызначалі лепшую працу ў кожнай тэме.

– Працы мы ацэньвалі па пяцібальнай шкале, – расказаў Яўген Стэльмах. – І шчыра кажучы, я мала каму ставіў пяцёркі. Лічу, што даволі цяжка раскрыць тэму адным фотаздымкам. Гэта не фотамарафон, а мегафотамарафон.

Маладым фатографам Яўген параіў часцей хадзіць па горадзе і здымаць на вызначаную тэматыку. Гэта, на яго прафесійную думку, дае шмат доследу, развівае прафесіяналізм фатографа.

### У падарунак – фотасесія і майстар-клас

Пераможцамі фотамарафону сталі **Дар’я Часноўская** і **Ганна Багдановіч** з сёмай гімназіі, а таксама маладзечанка **Юліяна Казлоўская**, якая прыйшла на мерапрыемства з сынам.

Прыз глядацкіх сімпатый вызначылі галасаваннем. У адзін з дзён за фотаздымак, які найбольш спадабаўся, галасавалі супрацоўнікі бібліятэкі, госці з інстытута Гётэ і чытачы, якія прыходзілі ў бібліятэку. Большасць адзначыла фотаздымак **Алесі Чумаковай**.

Пераможцы і ўдзельнікі атрымалі ў падарунак неабходнае абсталяванне для фотаздымкі. А Дар’я Часноўская, якая заняла першае месца, у падарунак атрымала майстар-клас ад Яўгена Стэльмаха і фотасесію з ім.

Вялікія каляровыя фотаздымкі фармату А4 з выставы-фотасушкі ўдзельнікам таксама дазволілі забраць у якасці падарункаў ад бібліятэкі.

Падчас узнагароджання прайшла скайп-канферэнцыя. Маладзечанская бібліятэка звязалася з бібліятэкамі Брэста і Баранавічаў, дзе таксама ладзілі фотамарафоны. Па скайпе маладзечанцы атрымалі прывітанне ад прадстаўніцы пасольства Германіі ў Беларусі фраў **Лютэр**.

Тыдні Германіі ў Беларусі скончыліся 31 кастрычніка. Акрамя фотамарафону, супрацоўнікі бібліятэкі правялі “круглы стол” на нямецкай мове. Сюды запрасілі нямецкую сям’ю і вучняў маладзечанскіх школ, якія вывучаюць нямецкую мову.

Аксана ЯРАШОНАК.


Настасся Нарэйка.


Валеры Пінчук.


Ірына Савіч.

# Журналісцкі гурток “Маладзіка” называюць філіялам журфака

МАЛАДЗЕЧНА

**Сямнаццаць гадоў таму ў цэнтры творчасці дзяцей і моладзі “Маладзік” з’явіўся журналісцкі гурток. За гэты час школу журналістыкі прайшло мноства падлеткаў, якія марылі стаць “акуламі пяра”. Як жа склаўся іх лёс? Цяперашнія юныя журналісты сустрэліся з некаторымі выпускнікамі аб’яднання.**

### Магдэбургскае права душы Настассі

**Настасся Нарэйка** была першай выпускніцай клуба юных журналістаў “Маладзік”, якая паступіла ў Інстытут журналістыкі ў 2004 годзе. Цяпер яна працуе адказным сакратаром у газеце “Навіны Камянеччыны”. Сюды дзяўчына трапіла пасля размеркавання і зусім не расчаравалася, бо вельмі спадабаўся ёй маленькі гістарычны гарадок са знакамітай Камянецкай вежай.

Былі бытавыя цяжкасці, прыйшлося наймаць пакой у прыватным доме, але Насця хутка знайшла агульную мову з гаспадыняй, бо камунікабельнасць – адна з галоўных рыс журналіста. І нават калі была магчымасць вярнуцца ў родны горад, наша гераіня засталася вернай свайму выданню.

– Не хацелася падводзіць калектыў, тут мяне паважаюць і цэняць, – прызнаецца Настасся.

Праз некалькі гадоў працы, ёй, маладому спецыялісту, прапанавалі пасаду адказнага сакратара.

Была яшчэ адна прычына адмовіцца ад пераезду – грамадская дзейнасць. У вольны час Настасся праводзіла гурток па журналістыцы ў аддзяленні дзённага знаходжання для людзей пажылога ўзросту пры мясцовым цэнтры сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва.

На занятках “настаўніца” расказвала сваім “вучням”, як пісаць, браць інтэрв’ю.

Сябры і знаёмыя ведаюць пра любоў Настассі да роднай мовы і літаратуры. Вучылася ў Маладзечанскай беларускай гімназіі (гімназія №10), цікавілася творамі айчынных аўтараў, а потым у дзесяць гадоў паспрабавала напісаць верш сама.

Цяпер маладая паэтка – сябра Саюза пісьменнікаў Беларусі, выдала зборнік вершаў “Магдэбургскае права маёй душы”. Кніга прысвечаная ўнутранай свабодзе чалавека, праву яго душы на “самакіраванне”. Творчасць Настассі Нарэйкі высока ацанілі ў Брэсцкім аблвыканкаме, і ў верасні гэтага года яе ўзнагародзілі літаратурнай прэміяй імя Уладзіміра Калесніка.

Дзяўчына друкуе вершы і апавяданні не толькі ва ўласнай газеце, але і ў такіх выданнях, як “Звязда”, “Маладосць”, “Полымя”, “Літаратура і мастацтва”. Любіць пісаць нарысы пра цікавых людзей.

– Бывае, прыязджаеш да чалавека, слухаеш яго гісторыю і не можаш паверыць. Хоць серыял здымай! Але ён просіць не пісаць пра гэта ў газеце. Тады прашу дазволу напісаць апавяданне, змяніўшы імёны герояў, – расказвае Насця.

У вольны час дзяўчына займаецца рукадзеллем, яно супакойвае і натхняе. Вяжа кручком розныя дробязі, карысныя рэчы, часта дорыць іх сябрам і знаёмым, бо лічыць, што падарункі, зробленыя сваімі рукамі, захоўваюць асаблівую цеплыню і душэўнасць.

На паліцы сярод узнагародаў і сувеніраў юных журналістаў “Маладзіка” захоўваецца кветка-ігольніца, якую Насця звязала для свайго педагога, і, вядома ж, першы зборнік яе вершаў з дарыльным надпісам.

### З журналістаў – у банкіры

**Валеры Пінчук** прыйшоў у “Маладзік” 14-гадовым падлеткам. У гэты час ён быў у актыўным пошуку свайго “я”.

– Кім я толькі не хацеў стаць! Сёння мару пра кар’еру медыка, заўтра – археолага, біёлага ці гісторыка. Яшчэ збіраўся звязаць лёс з чыгуначным транспартам. Галоўнае, каб не было звязанае з матэматыкай. У адзін цудоўны момант я прачнуўся і заявіў маме, што буду журналістам, – успамінае малады чалавек.

Юны карэспандэнт адказна падышоў да новай справы, не ленаваўся ездзіць на заняткі з вёскі Хажова, і за два з паловай гады ў яго скарбонцы было каля трыццаці публікацый. Адна з іх запомнілася асабліва, бо апісвае рэальную гісторыю.

> **Валера атрымаў з незнаёмага нумара СМС-паведамленне “Калі ласка, перацэлефануйце мне”. Як аказалася, яго адправіла ў роспачы дзяўчына, знаходзячыся на даху шматпавярховага дома.**

Найбольш яркі ўспамін пакінула здымка дакументальнага фільма “Абеліскі памяці”, які атрымаў дыплом першай ступені ў рэспубліканскім конкурсе.

– Памятаю, як перадзымалі некалькі разоў адны і тыя ж сюжэты. Тады я з гонарам уяўляў сябе сапраўдным журналістам, які не мае права на памылку. І кожны раз, калі мы нешта рабілі не так у кадры, у глыбіні душы я лаяў сябе за непрафесіяналізм, – дзеліцца ўражаннямі Валеры.

На ўступныя экзамены ў ВНУ юнак ішоў спакойна. Выбраўшы завочнае аддзяленне, учарашні школьнік працягнуў старанна займацца любімай справай, пры гэтым паспяваў падзарабляць: прадаваў электратавары, мэблю, прапаноўваў мабільныя паслугі, некаторы час працаваў афіцыянтам у рэстаране.

Аднак разумеў, што гэта зусім не тое, чым хацелася б займацца ўсё жыццё.

– З пошукам працы заўсёды было цяжка, – прызнаецца малады чалавек, – не кожны працадаўца гатовы ўзяць студэнта, хай нават і завочнага аддзялення. На пятым курсе я проста адправіў анкету ў банк – і мяне запрасілі на сумоўе. Калі б мне гадоў пяць таму сказалі, што мая праца будзе звязаная з матэматыкай – я проста пасмяяўся б.

Сёння Валеры працуе ў Мінску вядучым спецыялістам аднаго з паспяховых банкаў Беларусі.

У яго абавязкі ўваходзіць кансультацыя кліентаў па страхаванні, разлік працэнтаў па дэпазітах і крэдытах, афармленне дакументаў. Усё тыя ж продажы, па сутнасці, але ўжо больш сур’ёзныя.

### Мару абараніць доктарскую і атрымаць вышэйшую навуковую ступень

Калісьці прафесія журналіста здавалася **Ірыне Савіч** недасягальнай. Яна неаднаразова адкрывала сайт Інстытута журналістыкі БДУ, уважліва вывучала неабходныя для паступлення ўмовы і... закрывала.

Дзяўчына была ўпэўненая, што такое ёй не пад сілу, не разумела, дзе шукаць тэмы для матэрыялаў, у якіх выданнях публікавацца... Дапамог выпадак. Неяк убачыўшы аб’яву аб наборы вучняў у клуб юных журналістаў “Маладзік”, дзяўчына вырашыла паспрабаваць.

– За тры гады мне ўдалося назбіраць каля пяцідзесяці публікацый, – успамінае Ірына. – І я бязмежна ўдзячная нашаму педагогу **Наталлі Віктараўне Шульжыцкай** за дапамогу. Памятаю, як мы ездзілі ў якасці гледачоў на ўрачыстую цырымонію ўзнагароджання пераможцаў Нацыянальнага тэлевізійнага конкурсу “Тэлевяршыня”.

> **Тады, седзячы ў зале, я марыла, што калі-небудзь мне ўдасца падзякаваць кіраўніку гуртка з гэтай сцэны.**

І хоць цяпер маё жыццё непасрэдна не звязанае з журналістыкай, ды і мары перамагчы ў “Тэлевяршыні” больш няма, я ўсё роўна ўдзячная за той бясцэнны досвед, які атрымала дзякуючы клубу.

Насуперак усім страхам і сумненням Ірына стала студэнткай Інстытута журналістыкі, заняла адно з трынаццаці бюджэтных месцаў спецыяльнасці “інфармацыя і камунікацыя”.

– Мяне, у першую чаргу, прыцягнула магчымасць за чатыры з паловай гады атрымаць адразу дзве прафесіі. У маім дыпломе напісана: “Спецыяліст па інфармацыі і камунікацыі. Журналіст”, – тлумачыць Іра.

Універсітэт яна скончыла з адзнакай. Вучыцца было цяжка, але цікава. На інфакаме ты не проста ходзіш на лекцыі, рыхтуешся да семінараў – студэнты кожнага курса адказныя за падрыхтоўку розных праектаў. Ірына ўдзельнічала ў арганізацыі і правядзенні такіх буйных мерапрыемстваў, як “Тыдзень PR у Беларусі”, “Акадэмія камунікацыі”, міжнародны форум студэнцкіх праектаў “PR-кветка” і г.д.

Яшчэ падчас вучобы дзяўчыне прапанавалі пасаду спецыяліста па сувязях з грамадскасцю ў медыяцэнтры БДУ – гэта падраздзяленне вядучага ўніверсітэта краіны, які адказвае за фарміраванне яго іміджу. Сюды і размеркавалася пасля вучобы.

– Яшчэ школьніцай я для сябе вырашыла, што на першым месцы ў мяне будзе стаяць кар’ера, – дзеліцца Ірына. – Паступіўшы ва ўніверсітэт, я ўвесь час жыла ў рэжыме шматзадачнасці: з першага курса працавала, часам удзельнічала адразу ў некалькіх праектах адначасова, вярталася дадому позна вечарам. Рытм жыцця быў шалёны, і мне гэта падабалася. Але, сустрэўшы будучага мужа, я зразумела, што хачу рэалізавацца як жанчына, як мама... А дасягаць поспехаў на прафесійнай ніве ніколі не позна.

Цяпер знаходзячыся ў дэкрэтным адпачынку, Ірына не толькі клапоціцца пра двухмесячнага сына Мірона, але і ўдасканальвае англійскую мову, працуе над навуковымі публікацыямі і рыхтуецца ў будучыні працягнуць навучанне.

**Ірына БУБНОВА, Глеб РУДЗЬКО, навучэнцы школы журналістыкі “Маладзік”. Фота з архіваў герояў.**

# Прафесійныя пенсіі з улікам павышэння пенсійнага ўзросту

**У сувязі з унесенымі зменамі ў Закон "Аб пенсійным забеспячэнні" агульнаўстаноўлены пенсійны ўзрост, пачынаючы з 1 студзеня 2017 года, павялічваецца на 6 месяцаў штогод да дасягнення ўзросту мужчынамі 63 гадоў, жанчынамі – 58 гадоў.**

Ад 1 студзеня 2017 года прафесійныя пенсіі прызначаюцца і выплачваюцца з улікам названых змяненняў, г.зн. паэтапнага штогадовага павышэння на 6 месяцаў агульнаўстаноўленага пенсійнага ўзросту (мужчыны – 63 гады, жанчыны – 58 гадоў).

**Даведка: Прафесійная пенсія – штомесячная грашовая выплата за кошт пенсійных зберажэнняў у выглядзе датэрмінавай прафесійнай пенсіі або (і) дадатковай прафесійнай пенсіі (падпункт 1.12 пункта 1 артыкула 1 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб прафесійным пенсійным страхаванні").**

У адпаведнасці з Законам "Аб прафесійным пенсійным страхаванні" (далей – Закон "Аб ППС") прадугледжаны два віды прафесійных пенсій: датэрміновыя і дадатковыя. Памер аднаго і іншага віду пенсіі устанаўліваецца зыходзячы з сумы пенсійных зберажэнняў – сродкаў, якія фарміруюцца для выплаты прафесійнай пенсіі застрахаванай асобе з узносаў на прафесійнае пенсійнае страхаванне і даходаў ад іх размяшчэння.

### Датэрміновая прафесійная пенсія

Каб атрымаць права на датэрміновую прафесійную пенсію, неабходна выканаць у сукупнасці наступныя умовы: наяўнасць неабходнага прафесійнага стажу, дасягненне патрэбнага ўзросту і пастаяннае пражыванне ў Рэспубліцы Беларусь.

**Даведка: Прафесійны стаж – працягласць працы з асаблівымі ўмовамі працы застрахаванай асобы, на працягу якой за яго выплачваліся ўзносы на прафесійнае пенсійнае страхаванне (падпункт 1.7 пункта 1 артыкула 1 Закона "Аб ППС").**

Для кожнай катэгорыі работнікаў заканадаўствам устаноўлены свой стаж і ўзрост.

Датэрміновая прафесійная пенсія прызначаецца і выплачваецца застрахаваным асобам да дасягнення агульнаўстаноўленага пенсійнага ўзросту з улікам унесеных змяненняў у Закон "Аб пенсійным забеспячэнні".

Памер дадзенай пенсіі вызначаецца шляхам дзялення сумы пенсійных зберажэнняў на колькасць месяцаў датэрміновага пенсійнага перыяду застрахаванай асобы.

**Даведка: Датэрміновы пенсійны перыяд застрахаванай асобы – перыяд з месяца, наступнага за месяцам звароту застрахаванай асобы за датэрміновай прафесійнай пенсіяй, па месяц дасягнення ім агульнаўстаноўленага пенсійнага ўзросту (падпункт 1.10 пункта 1 артыкула 1 Закона "Аб ППС").**

Пры гэтым калі датэрміновы пенсійны перыяд застрахаванай асобы менш за 12 месяцаў, датэрміновая прафесійная пенсія устанаўліваецца ў памеры, які не перавышае двухразовай велічыні бюджэту пражытачнага мінімуму ў сярэднім на душу насельніцтва, які дзейнічае на дату вылічэння датэрміновай прафесійнай пенсіі (пункт 1 артыкула 14 Закона "Аб ППС").

### Дадатковая прафесійная пенсія

Другі выгляд прафесійнай пенсіі – дадатковая, якая прызначаецца застрахаваным асобам пасля дасягнення заканадаўствам асобай агульнаўстаноўленага пенсійнага ўзросту. Перыяд выплаты дадатковай прафесійнай пенсіі вызначаецца, зыходзячы з сумы пенсійных зберажэнняў, якая ёсць на прафесійнай частцы асабовага рахунку на дзень назначэння пенсіі і выплачваецца ў памеры бюджэту пражытачнага мінімуму ў сярэднім на душу насельніцтва, які дзейнічае ў месяцы, за які яна выплачваецца.

Пры вызначэнні права на дадатковую прафесійную пенсію гэтак жа будзе ўлічвацца паэтапнае павышэнне пенсійнага ўзросту. Напрыклад, мужчына 15 красавіка 1957 года нараджэння набудзе права на дадатковую прафесійную пенсію 15 кастрычніка 2017 года з дасягненнем узросту 60 гадоў і 6 месяцаў (пры наяўнасці на прафесійнай частцы яго асабовага рахунку пенсійных зберажэнняў).

**Застрахаваным асобам даецца права выбару паміж датэрміновай і дадатковай прафесійнай пенсіяй.**

Прызначэнне і выплата прафесійных пенсій ажыццяўляецца раённым аддзелам Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва па месцы жыхарства альбо фактычнага пражывання застрахаванай асобы на падставе заявы аб прызначэнні (аднаўленні) датэрміновай прафесійнай пенсіі або заявы аб прызначэнні дадатковай прафесійнай пенсіі.

Больш падрабязную інфармацыю можна атрымаць, звярнуўшыся ў Маладзечанскі раённы аддзел Мінскага абласнога ўпраўлення Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва па адрасе: *г. Маладзечна, вул. Машэрава, 19* або па тэлефонах (8-0176) **74-63-17, 74-62-14** ці на сайце **www.ssf.gov.by.**

**Маладзечанскі райаддзел МАУ ФСАН.**

ТЭМА НУМАРА

# "Маё імя – Калерыя", ці "Красная армия легко разгромила империалистов Японии"

100 гадоў таму, пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі, новыя савецкія святы сталі запаўняцца дзіўнымі імёнамі. Калі Даздраперма – імя даволі вядомае, то Карм, Жалдора, Гласп выклікаюць усмешку.

Мы сабралі гісторыі беларусаў, якія носяць савецкія імёны.

### Акцябрына: назвалі ў гонар 40-годдзя Кастрычніка

Акцябрыне сёлета спаўняецца 60 гадоў. Імя дзяўчынцы давалі свядома, бо бацькі былі шчырымі камуністамі.

– Імя падабаецца. У дзяцінстве называлі Рынай. Цяпер зусім не атаясамліваю з рэвалюцыяй. Хутчэй з часам года.

### Сталіна Душэнка: у мяне сяброўак дзесяць з такім імем

Сталя, Сталачка, Сталіначка – так назвалі дзяўчынку, якая сваё імя ні разу не думала мяняць, як бы цяжка не даводзілася з ім жыць.

– Асабліва ў той час, калі было развянчанне культу Сталіна, даводзілася не проста. Бывала, смяяліся з мяне. Але імя гэта маё, і мяняць яго я не хачу. У мяне шмат сяброўак і знаёмых, якія носяць такое самае імя.

### Нінэль: назвалі ў гонар аграномкі

**Нінэль Баравая** прызнаецца, што яе прыгожае імя ніколі не асацыявалася з тым, што яно азначае прозвішча Ленін наадварот. Пра гэта ёй толькі ў гадоў 16 сказаў не выкладчык у медыцынскім каледжы.

А імя сваё атрымала ў гонар аграномкі.

– Я нарадзілася ў Свярдлоўскай вобласці, у вёсцы Вялікая Качоўка. Бацькі мае былі звычайнымі сялянамі, да камуністычнай улады не мелі ніякага дачынення. Але аднойчы да нас у вёску прыехала маладзенькая аграномка па размеркаванні. Уся такая разумніца, прыгажуня. І мяне назвалі ў яе гонар.

### Уладзілен: добра, што не Даздраперм

**Уладзілен Сямашка**, у адрозненне ад жанчын з рэвалюцыйнымі, але мілагучнымі імёнамі, свайго імені не любіць.

– Маю такое шчасце называцца Уладзіленам, – з іроніяй кажа мужчына. – У больш сталым узросце хацеў яго змяніць. Але, шчыра прызнацца, пабаяўся валакіты.

Называць дзяцей савецкімі імёнамі нельга, лічыць мужчына.

– Усім жа вядома, што імя накладвае адбітак на характар і лёс чалавека. Які адбітак можа накласці на дзяўчынку імя Даздраперма і Пяцілетка?

### Калерыя: імя абазначае "гарачая"

– Як добра, што калі мяне так называлі, бацькі не ведалі, што імя Калерыя можна расшыфраваць як "Красная армия легко разгромила империалистов Японии". Мяне назвалі старажытным грэцкім іменем, якое абазначае гарачая. Калі хрысцілі, бацькам сказалі, што буду шчаслівая. Так і атрымалася.

### Леніна: імя запісаў сакратар сельсавета

– Так атрымалася, што, калі бацька пайшоў рэгістраваць мяне ў сельсавеце, сакратар, відаць камуніст, запісаў мяне і яшчэ двух дзяўчынак, якіх пайшлі рэгістраваць у гэты ж дзень, Ленінамі. А ў жыцці ўсё называлі мяне Ленай. І нават у школе не дражнілі. Вось толькі пасля школы і цяпер вельмі часта людзі звяртаюць на гэта ўвагу. Мяне гэта не раздражняе, але ўсім тлумачыць няма часу і жадання.

**Наталля ТУР.**




**Цікава, як рэкамендуецца ласкава называць трохмесячную Тралебузіну?**

### Слоўнік імёнаў, якімі вас, на шчасце, не назвалі

**Ватерпежекосма** – Валентина Терешкова – первая женщина-космонавт
**Вектор** – Великий коммунизм торжествует
**Ворс** – Ворошиловский стрелок
**Гертруда** – Героиня труда
**Кукуцаполь** – Кукуруза – царица полей
**Нисерха** – Никита Сергеевич Хрущев
**Пятвчет** – Пятилетку в четыре года
**Рем** – Революция мировая
**Тролебузина** – Троцкий, Ленин, Бухарин, Зиновьев
**Челнальдин** – Челюскин на льдине
**Урюрвкос** – Ура, Юра в космосе
**Юралга** – Юрий Алексеевич Гагарин.

# Дзясятачка: падсумуйце вынікі чвэрці

Паважаныя сябры, як вы закончылі першую чвэрць? Ці ўсе вашы дзявяткі і дзясяткі працуюць на тое, каб вы перамаглі ў нашай акцыі?

Пераглядзьце вынікі пачатку навучальнага года, запоўніце бланкі адзнакамі, якія яшчэ не дасылалі – і ўдзельнічайце ў барацьбе за нашы прызы.

А ў другой чвэрці няхай выдатных адзнак у вас будзе яшчэ болей!

Удзельнічаць у акцыі могуць вучні любой школы ці гімназіі Маладзечанскага, Вілейскага, Смаргонскага, Валожынскага, Мядзельскага, Ашмянскага, Астравецкага раёнаў, якім споўнілася 12 год.

Прымаецца адзнака па любым прадмеце, атрыманая за гэты навучальны год. На кожную адзнаку трэба асобны бланк. Прымаюцца толькі бланкі, выразаныя з газеты.

Калі вы хочаце, каб прадстаўнікі рэдакцыі завіталі ў ваш клас ці школу, запрашайце нас праз электронную пошту **regionnews@rh.by**.

Поўны спіс правілаў акцыі чытайце на сайце rh.by: rh.by/by/457/50/18289/.

**Аддзел інфармацыі.**

### Бланк удзельніка акцыі "Дзясятачка" (№44)

1. Імя, прозвішча______________________
2. Дата нараджэння ______________________
3. Клас
   Школа______________________
4. Населены пункт______________________
5. Тэлефон, па якім можна звязацца з удзельнікам ці бацькамі
6. Прадмет, за які атрыманая адзнака ______________________
7. Якую адзнаку атрымаў ("9" ці "10")__________
8. Дата атрымання адзнакі ______________________
9. Імя, імя па бацьку ______________________
10. Прозвішча настаўніка ______________________
11. Тэлефон, па якім можна звязацца з настаўнікам______________________
12. Подпіс настаўніка______________________

# Героі сойма 18 стагоддзя, імёнамі якіх называлі дзяцей

**Шаноўныя чытачы! Настаў час пазнаёміць вас з адным найбольш знакамітым дзеячам нашай радзімы, пра якога, на жаль, амаль ўсе забыліся. Гэта Станіслаў Багушэвіч-Мінькоўскі. Па паходжанні ён шляхціц, са старажытнага, разгалінаванага беларускага (або ліцвінскага) роду.**

Нарадзіўся ў 1752 годзе ў сям'і полацкага стражніка **Мікалая** і мінскай стальнікоўны **Феліцыяны з Быкоўскіх**.

Убачыў свет у маёнтку Літва Ігуменскага павета Мінскага ваяводства за некалькі кіламетраў ад Івянца, цяпер гэта Стаўбцоўскі раён Мінскай вобласці.

## Бацька біўся на сойміках

Бацька меў выбуховы характар. Неаднаразова ўдзельнічаў у бойках на сойміках, будучы там паслом. Паколькі быў прыхільнікам Чартарыйскіх, то пастаянна схопліваўся з прыхільнікамі Радзівілаў. І падчас адной з такіх боек у 1756 годзе загінуў, пакінуўшы жонку ўдавой, а дзяцей сіротамі. Яго забіў дзядзька **Тадэвуша Рэйтана**, паплечнікам якога яму ў будучыні наканавана стаць. Для сям'і наступілі цяжкія часы. Іх маёнтак аказаўся застаўным (ад польскай – zaztaw), пад гэтым імем была вядома у Польшчы і Літве старажытная форма залогу, спалучаная з перадачай крэдытору маёнтка даўжніка). Сям'ёй стаў апекавацца іх сваяк **Антоній Багушэвіч**, які выкупіў, а затым і падараваў ім іх маёнтак і вёску Літва.

Станіслава адпраўляюць у Вільню ў знакаміты езуіцкі калегіум Collegium Nobilum. Там ён атрымаў найлепшую адукацыю свайго часу, асвоіў французскую мову, што вельмі спатрэбілася ў будучым.

Неўзабаве па заканчэнні адукацыі, 24 сакавіка 1773 года, на мінскім сойміку Станіславу прысвоілі чын ротмістра і гэтым жа днём яго і **Тадэвуша Валадковіча** абралі пасламі на гістарычны сойм у Варшаву.

## За Рэч Паспалітую не заступіўся ніхто

Піша ў артыкуле, змешчаным у №36 газеты "Культура" за 2014 год **Зміцер Юркевіч**:

**"Паслы ад ВКЛ ведалі, што іх чакае. Ужо амаль год іх суграмадзяне на роднай Полаччыне, Магілёўшчыне гвалтам прымушаныя прымаць прысягу на вернасць расійскай царыцы Кацярыне Другой, а гэта значыць, што 1 мільён 300 тысяч ліцвінаў у адзін момант сталі падданымі іншай краіны…".**




Тадэвуш Рэйтан.

Фота io.ua

Краіны-захопніцы Расія, Прусія і Аўстрыя патрабавалі, каб гэтай анексіі была дадзеная форма законнасці. І самі прымалі ўсе магчымыя для гэтага меры. Падкупілі большасць паслоў сойма.

Але дэпутаты-беларусы (або ліцвіны), якія, праўда, мала ведалі, што адбываецца у іншых правінцыях Рэчы Паспалітай, добра бачылі: Вялікае Княства Літоўскае страціла такія гарады, як Полацк, Невель, Віцебск, Магілёў, Гомель. Многія іх сваякі трапілі у няволю. Прапалі самыя багатыя землі. Таму былі настроеныя вельмі рашуча.

Выбух здарыўся на сойме 19 красавіка 1773 года, калі паслы ад Наваградчыны Тадэвуш Рэйтан, **Самуэль Корсак**, пасол ад Міншчыны Станіслаў Багушэвіч, пінскі пасол **Ігнат Куранеўскі** і іншыя беларусы (або ліцвіны) паўсталі на абарону бацькаўшчыны.

Паслы ад Жмудзі сабатавалі свае соймікі, і ўвогуле не прыслалі паслоў. Станіслаў ад першай і да апошняй хвіліны стаяў разам з Тадэвушам Рэйтанам.

Паслы-героі абурыліся тым, што Варшава забрала сабе правы правядзення сойма. Бо прымаць сойм па чарзе мусіла Гродна – Вялікае Княства Літоўскае.

Па колішніх законах Рэчы Паспалітай, соймы праводзіліся ў розных правінцыях па чарзе. Карыстаючыся гэтым, Рэйтан, Корсак, Багушэвіч заблакавалі пачатак сойма.

**Яны заклікалі суграмадзян-паслоў праявіць сумленне. Але гэта было марна. Большасць людзей, якія павінны былі бараніць Айчыну, прадалі яе за грошы.**

Героі сарвалі покрыва легітымнасці з гэтай здрады, што і было галоўнай мэтай супраціву. Дзякуючы чатырохгадзённай барацьбе ўвесь свет убачыў, што адбываецца насамрэч.

**І вестка пра нечуваную здраду большасці і адчайную мужнасць адзінак хутчэй ветру і маланкі абляцела ўсе краіны свету.**

Але за Рэч Паспалітую не заступіўся ніхто. Расія, Прусія і Аўстрыя вырашылі лёс краіны.

## Таемны ліст, дзякуючу якому знайшлі здрадніка Рэчы Паспалітай

Даведаліся пра падзеі на сойме і ў Літве-Беларусі. Станіслаў, які не мог сам пакінуць Варшаву, якая была, можна сказаць, у варожай асадзе, акружаная колам варожых войскаў, таемна піша ліст да мінскага сойміка.

І перасылае яго з дапамогай гарадзенскага шляхціца **Адама Кулікоўскага**, які завёз яго ў Мінск і заактаваў у кнізе мінскага гарадскога суда.

Дзякуючы гэтаму лісту ў 1790 годзе на вялікім сойме ўдалося арыштаваць і асудзіць галоўнага здрадніка – польскага пасла **Адама Панінскага**, маршалка канфедэрацыі, якая здрадзіла Рэчы Паспалітай.

**Ігар СОЛТАН,**
**бібліятэкар Івянецкай гарпасялковай бібліятэкі.**
**Зміцер ЮРКЕВІЧ.**
**Заканчэнне будзе.**

## ● КАЛЯНДАР

### 3 ЛІСТАПАДА

**135 гадоў** з дня нараджэння **Якуба Коласа** (сапр. Канстанцін Міхайлавіч Міцкевіч) (1882 – 1956), класіка беларускай літаратуры, народнага паэта Беларусі.

**90 гадоў** назад (1927) у Мінску адбылася закладка ўніверсітэцкага гарадка.

**45 гадоў** назад (1972) у Мінску адбылося адкрыццё помніка народнаму паэту Беларусі Якубу Коласу.

**85 гадоў** з дня нараджэння **Івана Ліштвана** (Валожынскі раён), савецкага вучонага, акадэміка АН БССР, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі.

### 4 ЛІСТАПАДА

**130 гадоў** з дня нараджэння **Цішкі Гартнага** (сапр. Зміцер Хведаравіч Жылуновіч) (1887 – 1937), беларускага пісьменніка, дзяржаўнага і грамадскага дзеяча.

### 5 ЛІСТАПАДА

**1907.** 110 год назад нарадзіўся **Міхаіл Вітушка**, генерал, адзін з лідараў Беларускай Незалежніцкай Партыі, кіраўнік беларускага супраціву ў другой палове 1940 – 1950-х гадоў.

### 6 ЛІСТАПАДА

**1887.** 130 гадоў назад нарадзіўся **Радаслаў Астроўскі**, грамадска-палітычны дзеяч, педагог, дырэктар Віленскай беларускай гімназіі ў 1924 – 1936 гадах, прэзідэнт Беларускай Цэнтральнай Рады (1944 – 1945 гг., 1947 – 1976 гг.), дзеяч эміграцыі ў Германіі, Вялікабрытаніі і ЗША.

### 7 ЛІСТАПАДА

**1917.** 100 гадоў з пачатку Кастрычніцкай рэвалюцыі (Беларусь адзіная з краін былога СССР, хто да гэтага часу адзначае 7 лістапада на дзяржаўным узроўні).

### 8 ЛІСТАПАДА

**1883.** Нарадзіўся **Вацлаў Ластоўскі** (маёнт. Калеснікі, цяпер Глыбоцкі раён), грамадска-палітычны дзеяч, гісторык, мовазнавец, літаратуразнавец, публіцыст, этнограф.

### 9 ЛІСТАПАДА

**115 гадоў** з дня нараджэння **Несцера Сакалоўскага** (1902 – 1950), беларускага кампазітара, хормайстра, фальклярыста, аўтара музыкі Дзяржаўнага гімна Беларусі.

**1817.** Памёр **Раймонд Корсак**, польскі паэт, перакладчык, сябра аднаго з кіраўнікоў касцюшкаўскага паўстання Якуба Ясінскага, палкоўнік. Нарадзіўся 31 жніўня 1768 года.

**Падрыхтавала Марыя БЕРАСНЕВА.**

# 6500 кіламетраў вачамі ўдзельніцы па слядах Скарыны і Агінскага


Фота Валерыі МАЛІНОЎСКАЙ.

Кветкі для Францыска ад фанатак-беларусачак.

**Члены дэлегацыі дабрачыннага фонду "Спадчына Міхала Клеафаса Агінскага" і Беларускага фонду культуры ў межах рэалізацыі міжнароднай праграмы "Шляхамі Францыска Скарыны: да 500-годдзя выдання Пражскай Бібліі" ад 8 да 18 кастрычніка наведалі Кракаў, Прагу, Падую, Венецыю, Фларэнцыю і Рым.**


Фота Дзмітрыя АРЦЯМЁНКА.

Рым. Передача мемарыяльнай шыльды ў гонар святых Кірыла і Мяфодзія. Скульптар Валяр'ян Янушкевіч. Справа Пётр Краўчанка.

Дырэктар дабрачыннага фонду **Алеся Каролік** падзялілася сваімі ўражаннямі ад падарожжа.

– Я не хацела б пачынаць свой расповед з таго, што мы  12 гадзін ездзілі па тэрыторыі Беларусі, бо адзін з памежных пераходаў быў закрыты, таму раскажу, як а пятай гадзіне раніцы наша група рушыла ў бок Кракава з надзеяй на добрае надвор'е, добры настрой і цікавае падарожжа.

## Кракаў

...У Кракаве першым пунктам нашага прыпынку стаў Ягелонскі ўніверсітэт. Прыгожы, велічны, цудоўны. Нас сустрэлі і правялі ў прыгожую парадную залу, дзе ўсе сцены былі ўвешаныя партрэтамі каралёў і іншых знакамітых асоб Польшчы. Каб я дасканала разумела польскую мову, на якой нам праводзілі экскурсію, я можа, распавяла б болей пра гісторыю Ягелонскага ўніверсітэта, але я проста паслухмяна пасля экскурсіі разам з нашай дэлегацыяй паднялася на трэці паверх універсітэта, дзе нас чакаў бронзавы Скарына. Усклалі кветкі, пакланіліся долу і накіраваліся ў наступны горад на нашым шляху – Прагу.

## Прага

Я не буду доўга распавядаць пра тое, што перш-наперш мы накіраваліся ў абменныя пункты, а толькі пасля глядзець начны горад. Мяне здзівіла, што ў 22:00 ён быццам вымірае: вуліцы пусцеюць, на небе свеціць месяцпоўня і групка беларускіх турыстаў шпацыруе па вуліцах і дзівіцца на прыгожую пражскую архітэктуру.

На раніцу чакала расчараванне: за вокнамі ліў дождж. Але трэба было выбірацца з атэля і ісці ўскладаць кветкі да помніка Францыску Скарыну ў Празе. Помнік знайшлі, кветкі ўсклалі. І гэты пахмурны ранак упрыгожыў сваімі акапэльнымі спевамі **Андрэй Мацюшонак**.

Рассаджваючыся ў аўтобусе, мы ўспаміналі словы прадмовы ля помніка Скарыну першага міністра замежных спраў Беларусі **Пятра Краўчанкі** і прадстаўніка амбасады Беларусі ў Чэхіі. Канешне, мы ганарымся тым, што помнік нашаму першадрукару стаіць у Празе, што кожны свядомы беларус павінны яго наведаць ці хаця б проста знаць, што ў Празе ёсць такі помнік.

## Наперадзе нас чакала Італія

Пераезд праз Аўстрыю быў самым запамінальным: горы, горы і зноў горы. Не хапіла памяці на тэлефоне, каб зафіксаваць усю гэту прыгажосць.

Цяжка было ўявіць, што нас наперадзе чакае цудоўная Італія.

Яна сустрэла амаль летнім надвор'ем і сонцам. Вузенькія вулачкі, старыя будынкі, каларытныя італьянцы – усё гэта было не ў італьянскім кіно, а насамрэч.

Пакуль афіцыйная частка нашай дэлегацыі была на прыёме ў мэрыі, мы і музыканты накіраваліся ў той самы Падуанскі ўніверсітэт, дзе Францыск Скарына абараняў сваю навуковую працу. Мы перадалі ўніверсітэту 21 том скарынаўскай біблii, а супрацоўнікі ўніверсітэта паказалі нам сапраўдны дакумент 16 стагоддзя, у якім напісана пра тое, што Скарына сапраўды абараніў сваё званне. А пасля нас чакала яшчэ адно захапленне. Нас правялі ў аўдыторыю, дзе 500 гадоў таму абараняўся наш першадрукар.

**Фларэнцыя. Ці ведалі вы, што заезд у горад каштуе 500 еўра?**

# падарожжа




Фота Валерыя МАЛІНОЎСКАЯ.

Вось вам і ўваход у мэрыю Фларэнцыі.




Фота Дзмітрыя АРЦЯМЁНКА.

Прага. Каля помніка Францыску Скарыну стаяць пасол Беларусі ў Чэхіі Валеры Курдзюкоў (злева) і першы міністр замежных спраў Беларусі Пётр Краўчанка.

Мы ўзрушаліся такім высокім коштам роўна да таго моманту, пакуль не трапілі на вуліцы Фларэнцыі.

Будынкі 12 стагоддзя, брукаванкі, каталіцкія базілікі…

Салісты сімфанічнага аркестра маладзечанскага музычнага каледжа мелі вялікі гонар зладзіць канцэрт у базіліцы Санта Крочэ, дзе знайшоў свой вечны спакой Міхал Клеафас Агінскі.

Пасля канцэрта мы накіраваліся на вуліцу Тарнабуёні, дзе апошнія гады жыў Міхал Клеафас Агінскі.

Калі вы аднойчы трапіце ў Фларэнцыю, абавязкова акрамя фотаапарата вазьміце з сабой відэакамеру. Немагчыма запомніць і перадаць у фота ўсю гэту прыгажосць!

**80% гістарычных каштоўнасцяў планеты знаходзяцца ў Італіі.**

На наступны дзень нас чакала экскурсія ў галерэю Уфіці з італьянскім экскурсаводам. Мы хадзілі па залах і не верылі сваім вачам, што перад намі арыгіналы Рафаэля, Мікельанджэла…

Але духоўная ежа – гэта добра, але як жа без сапраўднай італьянскай піцы? Піца, канешне, смачная, але яшчэ прыемна ўразіла тое, што ў кавярні працавалі адны афіцыянты-мужчыны.

У Рыме нас чакалі ў базіліцы Сан Клементэ. Але перад гэтым экскурсія па Ватыкане.

У кастрычніку Ватыкан наведваюць прыкладна 36 тысяч чалавек штодзённа, таму падчас экскурсіі нідзе спыняцца нельга, бо народу вельмі шмат.

Толькі ў Сікстынскай капэле мы змаглі атрымаць асалоду ад цішыні.

Мемарыяльную шыльду са словамі ўдзячнасці Кірылу і Мяфодзію перадалі ў базіліку Сан Клементэ. Там падчас прамовы прадстаўнікі пасольства расказалі, што ў Рыме 1300 каталіцкіх храмаў. І калі царкве менш за 500 гадоў, то італьянцы ў яе проста не пойдуць. Вось вам і Італія.

А калі беларусы звярнуліся да італьянцаў, каб адшукаць у музейных фондах "Падарожную кніжыцу" Скарыны, яны адказалі: "Усяго 500 гадоў? Навошта вам гэтая "навінка"? У нас ёсць рэчы нашмат старэйшыя".

**Алеся КАРОЛІК,**
**дырэктар дабрачыннага фонду "Спадчына Міхала Клеафаса Агінскага".**

● ШАХМАТЫ З ВІТАЛЕМ КАЧАТКОВЫМ

## Шахматы – гэта самастойныя заняткі

**Шахматы, як і любая сур'ёзная справа, патрабуюць рэгулярных практыкаванняў. Лічу, што "запойныя" захапленні – самы радыкальны і прагрэсіўны метад.**

Патлумачу. Можна размеркаваць гадзіны заняткаў па адной гадзіне на дзень цягам тыдня, а можна займацца сем гадзін адзін раз на тыдзень. Дык вось адзін раз па сем гадзін – больш прадуктыўны метад. А на нашы шахматы, ды з нашымі патрабаваннямі да ўзроўню – мат у адзін ход, – трэба аднаму даросламу прысвяціць адзін ўікэнд, і чарговы ўзровень пройдзены!

Уявіце, што за адзін ўікэнд вы зможаце на ўсё жыццё набыць новыя веды і навыкі! І зможаце навучаць сваіх дзяцей, а таксама весела і з карысцю бавіць з імі час. Хай і не кожны вечар, але час ад часу. Вельмі добра матывуе гульня на інтарэс: хто прайграе – мые посуд ці падлогу.

**Паддайцеся "малому" – і ўбачыце "бляск" яго вачэй, калі вы, прайграўшы, мыеце падлогу за пройгрыш. Як быццам ніколі не мылі падлогу, але менавіта гэта мыццё будзе асаблівым і запомніцца дзіцяці на ўсё жыццё.**

Так было і са мной. Успамінаю, якая радасць была прымусіць тату памыць падлогу ці посуд. Ён прайграў, таму і мыў. Памятаю, мы так за вечар перарабілі ўсе хатнія справы. Мама была, дарэчы, зусім не супраць...

**Дыяграма №106:**



Простая задачка для ўважлівых. І белы, і чорны кароль крыху "сціснутыя" сваімі нешматлікімі фігурамі. І за белых, і за чорных вырашае дыяганальнае нападзенне.

А хто ўмее хадзіць і нападаць па дыяганалі? **№107:**



У гэтай задачы абодвум каралям перашкаджае ўласная ладдзя. Мат і белы, і чорны ферзь пры сваім ходзе ставіць падобны.



Эндшпіль, а мы ж ведаем ужо, што гэта фінальная стадыя шахматнай гульні, – вельмі няпросты і займальны. Паспрабуйце згуляць некалькі партый не з пачатковай пазіцыі, а, напрыклад, з такой:



Праз дзесяць партый можаце дадаць сабе і партнёру па адной фігуры:

Такі метад трэніроўкі дазволіць хутчэй адчуць фігуры пачаткоўцу, у параўнанні з усім камплектам. Як гаварыў класік: менш фігур – лягчэй гуляць.

Усім поспехаў! Добрых выхадных і стараннасці ў засваенні каралеўскай гульні!



**Віталь КАЧАТКОЎ, майстар спорту па шахматах Беларусі, Маладзечна.**

# Чэмпіёнам свету па панкратыёне стаў Андрэй Жукоўскі

**МАЛАДЗЕЧНА**

Пераможца кажа, што канкурэнтаў ён адолеў без асаблівых цяжкасцяў, а цяпер настроены пакарыць першынство свету па ММА, якое плануецца на лістапад.

Чэмпіянат свету па панкратыёне прайшоў у Сочы 27-29 кастрычніка. Жыхар Чысці стаў чэмпіёнам свету ў раздзеле "юніёры".

Трэнер Мінскага філіяла ММА **Андрэй Дзёмін** распавядае, што быў упэўнены ў перамозе свайго байца:

**– Я ў ім упэўнены заўсёды! Гэта вельмі таленавіты і перспектыўны хлопец, а галоўнае – мэтанакіраваны. Мы з ім ездзім на многія спаборніцтвы ў рэспубліцы, і гэта заўсёды поспех.**



Фота забяспечанае Андрэем ЖУКОЎСКІМ.

**Чысцінец Андрэй Жукоўскі падчас чэмпіянату ў Сочы.**

Андрэй займаецца з трэнерам Дзёміным два гады. Да чэмпіянату ў Сочы рыхтаваліся два месяцы.

– Андрэй заўсёды ў форме, мы не прапускаем трэніроўкі. Займаліся два разы на дзень – раніцай і вечарам, шэсць разоў на тыдзень. Ехалі з добрай падрыхтоўкай.

Баец адзначае, што падрыхтоўка была складанай у апошнія два тыдні.

У катэгорыі "юніёры" Жукоўскаму давялося змагацца з двума расіянамі і адным іранцам.

– Узровень саперніка ў сярэдні, – адзначае Андрэй. Калі шчыра, я настройваўся на горшае. Заўсёды так раблю, і з першынством, што будзе ў лістападзе. А што тычыцца падрыхтоўкі, умоў для трэніровак – яны на самым высокім узроўні.

Пасля трэнера першай павіншавала Андрэя з тытулам чэмпіёна мама. Бацькі, бабуля, хросныя заўсёды падтрымліваюць Андрэя дома.

– Гледачы ў зале не дапамагаюць змагару, – лічыць Дзёмін. – Падчас боя адключаешся ад усяго, што вакол, акрамя саперніка і трэнера.

З Беларусі на чэмпіянат ехалі шасцёра спартсменаў. Золата ўзяў маладзечанец і мінчанін **Міхаіл Адзінцоў**, ужо ў катэгорыі "мужчыны".

Трэнер адзначыў, што ўмовы ў Сочы былі вельмі прыемныя. Атэль размяшчаўся каля мора, а тэмпература была 18-20 градусаў.

Андрэю Жукоўскаму 18 год. Займаецца барацьбой ад 12 год. Кажа, што трапіў у спорт выпадкова – прыйшоў за кампаніяй з аднакласнікам.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

**Даведка "РГ".** Панкратыён – старажытны алімпійскі від адзінаборстваў. Слова паходзіць ад назвы баявога мастацтва, якое першым уключылі ў спаборніцтвы антычных Алімпійскіх гульняў. ММА – змешаныя баявыя мастацтвы.

● НАВІНЫ

## Набіраюць дзяцей на бясплатныя заняткі барацьбой

**МАЛАДЗЕЧНА**

Адчынілася новая зала барацьбы ў Маладзечне ў СДЮШ №1. Займацца ў ёй запрашаюць хлопчыкаў 9-13 год.

Заняткі бясплатныя.

Прыходзьце па адрасе: *вуліца Касманаўтаў, 10* (будынак інтэрната, 2-і паверх).

Даведкі па тэлефоне (8029) 55-44-861.

## Андрэй Іваненка спыніў працу з камандай "Маладзечна"

**МАЛАДЗЕЧНА**

Такое рашэнне агучыў старшыня праўлення ФК "Маладзечна-ДЮСШ-4" **Андрэй Іваненка** пасля сустрэчы з кіраўніцтвам райвыканкама.

У каментары "РГ" ён адзначыў, што пачуццё, з якім ён сыходзіць, – расчараванне. Цяпер плануе заняцца падарожжамі.

На пытанне, што можа дапамагчы маладзечанскаму футболу, Андрэй адказаў:

– Ці вельмі вялікія грошы, ці змяненне пазіцыі да футбола ў горадзе. Цяпер пазіцыя такая: футбол ёсць – і добра, і гэтага нам дастаткова.

Андрэй Іваненка забяспечваў пазабюджэтнае фінансаванне каманды. Падрабязны артыкул на гэту тэму чытайце ў наступным нумары.

**Аддзел інфармацыі.**



Фота vk.com.

**Андрэй Іваненка, былы старшыня праўлення ФК "Маладзечна-ДЮСШ-4".**



Фота Аляксандра ДЗЕХЦЯРОНКА.

# Мы завяршылі акцыю "Не губляй ніводнага дня"

**1 лістапада мы завяршылі акцыю "Не губляй ніводнага дня".**

Усе дасланыя фотаздымкі 6 лістапада размесцім на сайце "Рэгіянальнай газеты" і аб'явім галасаванне. Хто назбірае найбольшую колькасць галасоў, атрымае ў падарунак вялікі набор цукерак.

З дасланых фотаздымкаў калектыў рэдакцыі абярэ адзін, які размесцім на фірменным календары "РГ" на 2018 год. Той, хто даслаў здымак, які выбера рэдакцыя, атрымае ў падарунак лічбавую фотарамку.

Сярод фотаздымкаў, на якіх будзе прысутнічаць тэма "Рэгіянальнай газеты", рэдакцыя абярэ лепшы на яе погляд, а аўтара ўзнагародзіць наборам фірменных сувеніраў ад "Рэгіянальнай газеты". У далейшым гэтыя здымкі могуць быць выкарыстаныя ў нашых публікацыях.

Пакуль можам сказаць, што большасць фотаздымкаў нам даслалі чытачы з Маладзечна.

Дасланыя фотаздымкі пачалі размяшчаць у папяровай версіі газеты. Сёння – працягваем. Гэты здымак даслаў **Аляксандр Дзехцяронак** з Вілейкі. Фота зробленае ў Пецяргофе ў ліпені падчас выпрабавання фантана "Шуціха".

Умовы цалкам чытайце на сайце rh.by.

**Калектыў "Рэгіянальнай газеты".**



## Далучайцеся да акцыі "Супергаспадар"

Вы сабралі самы вялікі ўраджай? Або пабудавалі ўнукам арэлі? Вышылі абрус або ўмееце пячы самыя смачныя ў свеце піражкі?

Тады раскажыце пра гэта.

Дасылайце на пошту regionnews@rh.by чытачоў фотаздымкі. Падзяліцеся з рэдакцыяй і чытачамі тым, што выклікае ў вас гонар, а ў суседзяў – добрую зайздрасць.

Галоўны падарунак для пераможцы – садовыя арэлі.

Дасылаць здымкі могуць нашы чытачы да 13 лістапада.

Усе ўмовы акцыі чытайце на сайце rh.by.

**Калектыў "Рэгіянальнай газеты".**

## Мінскі абласны драматычны тэатр

**РЭПЕРТУАР НА ЛІСТАПАД**

ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ

ПРЭМ'ЕРА. "**Прыгажуні**" 16+ (амерыканская камедыя), *Айван Менчэл*

4 лістапада – у 18:00

**ГАСТРОЛІ ГРОДЗЕНСКАГА АБЛАСНОГА ДРАМАТЫЧНАГА ТЭАТРА**

Палац культуры г. Маладзечна

"**Шыкоўнае вяселле**" 14+ (камедыя), *Робін Хоўдан*

10 лістапада – у 19:00

"**Сланяня і Месяц**" 6+ (прыгодніцкае шоу-прадстаўленне), *Аксана Машынкова*

11 лістапада – у 12:00

"**Боінг-боінг**" 14+ (камедыя), *Марк Камалеці*

11 лістапада – у 17:00

"**На другі дзень Сёмухі**" 14+ (сцэнічны жарт у 3-х дзеях на драматургічнай аснове "Прымакоў" Янкі Купалы), *Юры Вута*

14 лістапада – у 19:00

ПРЭМ'ЕРА "**Дыягназ-каханне!**" 14+ (камедыя ў 2-х дзеях), *Андрэй Максімаў*

**16 лістапада – у 19:00**

**ГАСТРОЛІ БРЭСЦКАЙ АБЛАСНОЙ ФІЛАРМОНІІ**

У гасцях тэатра артысты цырка "**Школа клоўнаў**" 3+

17 лістапада – у 13:30 і 18:00

"**Чатыры навелы пра каханне**" 14+, *С.Злотнікаў, Л.Пятрушэўская, А.Слапоўскі, В.Распуцін*

24 лістапада – у 19:00

**Спектакль-бенефіс у гонар вядучага майстра сцэны Барыса Доніна, узнагароджанага медалём Францыска Скарыны**

"**Не такі, як усе**" 14+ (камедыя ў 2-х дзеях), *Аляксей Слапоўскі*

25 лістапада – у 17:00

ПРЭМ'ЕРА. "**Ну, вы даяце**" 16+ (камедыя па матывах замежнай класікі)

30 лістапада – у 19:00

Тэатр мае права на замену спектакляў. *Маладзечна, вул.Чкалава, 7.* Кантактныя тэлефоны: 75-29-16 – намеснік дырэктара, 76-17-32 – галоўны адміністратар, 75-24-17 – каса. E-mail: modt@tut.by, www.theatre-modt.by.

УНП 600066659

## Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка"

**РЭПЕРТУАР НА ЛІСТАПАД**

АДКРЫЦЦЁ ТЭАТРАЛЬНАГА СЕЗОНА

"**Маленькая гісторыя**" (музычная казка), Н.Гернет (рус.)

5 лістапада – у 12:00

**ДА 130-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ С.МАРШАКА**

"**Церамок**" (вясёлая казка), *С.Маршак (рус.)*

12 лістапада – у 12:00

"**Казка пра Ямелю**" (чароўная казка), *Л.Тарахоўская (рус.)*

19 лістапада – у 12:00

"**Васіліса Прыгожая**" (чарадзейная казка), *К.Чарняк (рус.)*

26 лістапада – у 12:00

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе: *Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.*

Тэл. (8-0176) **74-62-19, 50-56-96.**

УНП 600136804

## ГАРАСКОП 2 - 9 ЛІСТАПАДА



**АВЕН.** Эмацыйны спад, калі праявіцца нежаданне з кім-небудзь мець зносіны. Гэта перадышка дазволіць вам рухацца далей. Асаблівы прарыў чакаецца ў сярэдзіне тыдня, калі вы сарвяцеся з месца і актыўна пачняце рухацца наперад. Але нават калі вонкава падзеі будуць праяўляцца не так ярка, унутры вас змены будуць кіпець.



**ЦЯЛЕЦ.** Вам прыйдзецца браць на сябе адказнасць за прыняцце неабходных рашэнняў, якія паўплываюць на вашу бліжэйшую будучыню. Найлепшых вынікаў вы дасягняце ў тым, да чаго будзе ляжаць душа. У выхадныя дні больш часу надавайце адпачынку.



**БЛІЗНЯТЫ.** Важная і карысная інфармацыя будзе сыпацца на вас адусюль, але паступаць яна будзе ў злёгку завуаліраваным выглядзе. Таму давядзецца не толькі прыслухоўвацца да галасоў звонку, але і да голасу інтуіцыі знутры.



**РАК.** Некаторым з вас лёс рыхтуе падарунак: вы сустрэнеце чалавека, пра якога нядаўна ўспаміналі. І сустрэча стане прыемным сюрпрызам для вас. Звярніце ўвагу на дробязі, якія не здаюцца вам чымсьці важным. Але менавіта яны якасна паўплываюць на ваша жыццё.



**ЛЕЎ.** Ваша папулярнасць павышаецца не толькі на рабоце, але і далёка за яе межамі. Нечакана з'явяцца даўнія знаёмыя, пра якіх вы даўно ўжо і забыліся. Магчыма, яны чакаюць ад вас нейкай паслугі, але і самі змогуць дапамагчы. Гэта добры знак.



**ДЗЕВА.** Работа можа запатрабаваць ад вас дадатковых намаганняў, таму лепш адразу вырашыць для сябе, з якім аб'ёмам вы можаце рэальна справіцца, і ні ў якім разе не пададжацца на правакацыі. Не гэтага ліміту. Не завязніце на дробных задачах, а засяродзьцеся на галоўным і маштабным.



**ШАЛІ.** Цяпер актывуецца падсвядомасць, могуць быць яркія і важныя сны. Звярніце на іх увагу, можа, менавіта ў іх вам даецца нейкая падказка. "Пасяліце" ў сваім сэрцы любоў, мяняйцеся самі да лепшага, і тады вы будзеце аказваць ў патрэбным месцы ў патрэбны час.



**СКАРПІЁН.** Не шкадуйце часу і сіл на праверку надзейнасці новых партнёраў, толькі тады ёсць сэнс пачынаць з імі сумесную дзейнасць.



**СТРАЛЕЦ.** Вы проста абавязаныя ўнесці ў сваё жыццё новы струмень! Любыя пачынанні будуць падтрыманыя. І ведайце, што пазітыўныя думкі здольныя збывацца.



**КАЗЯРОГ.** Ваш энергетычны патэнцыял высокі, вы здаровыя і вам пад сілу вырашаць любыя пытанні. У адзінокіх ёсць вялікая верагоднасць закруціць любоўны раман, які мае шансы на шчаслівую будучыню.



**ВАДАЛЕЙ.** Важныя спакой і ўраўнаважанасць.Назірайце за ходам жыцця і на прыспешвайце падзеі. Нічога не рабіце на злосць навакольным, нават калі вельмі хочацца. Яма, выкапаная іншаму, з гарантыяй апынецца на вашым уласным шляху. Нядзеля можа апынуцца ўдалым днём для пачатку сур'ёзнай справы ў неафіцыйнай абстаноўцы.



**РЫБЫ.** Вы станеце больш заўважаныя. Магчыма, вакол вас будуць адбывацца нейкія падзеі, якія выдзяляюць вас з агульнай масы людзей, пастаўляюць у цэнтр грамадскай ўвагі. Не адмаўляйцеся ад далёкай паездкі – такая магчымасць выпадае не часта.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 6 | | | | | 5 | 1 |
| | 8 | | | | 6 | 9 | 7 | |
| | 3 | 5 | | | | 4 | | 2 |
| | | | 8 | 4 | 3 | | | |
| | | 7 | 6 | 1 | 9 | | | |
| | | | 7 | 2 | | | 1 | |
| | | 4 | | | 8 | | | 9 |
| 9 | | 3 | | | 2 | | | |
| 2 | 7 | | | | | | | 5 |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 4 | 9 | 6 | 2 | 3 | 7 | 8 | 5 | 1 |
| 1 | 8 | 2 | 4 | 5 | 6 | 9 | 7 | 3 |
| 7 | 3 | 5 | 9 | 8 | 1 | 4 | 6 | 2 |
| 6 | 2 | 1 | 8 | 4 | 3 | 5 | 9 | 7 |
| 3 | 5 | 7 | 6 | 1 | 9 | 2 | 8 | 4 |
| 8 | 4 | 9 | 7 | 2 | 5 | 3 | 1 | 6 |
| 5 | 1 | 4 | 3 | 6 | 8 | 7 | 2 | 9 |
| 9 | 6 | 3 | 5 | 7 | 2 | 1 | 4 | 8 |
| 2 | 7 | 8 | 1 | 9 | 4 | 6 | 3 | 5 |

ISSN 1991-7155

# Рэгіянальная газета. Rh.by

Найлепшая рэгіянальная газета года 2017 · 2015

тэлетыдзень

## ● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

# Для чаго патрэбныя сродкі масавай інфармацыі і журналістыка ўвогуле?



**Дзяніс Гендрых, дзяжурны па гандлёвай зале:**

– Журналістыка – важны накірунак дзейнасці чалавека. З дапамогай СМІ атрымліваю новую інфармацыю, даведваюся пра жыццё краіны. Як спартсмен аддаю перавагу спартыўным навінам.



**Аляксандр Вершаль, сталяр:**

– СМІ патрэбныя, каб разбірацца ў палітычных падзеях, удасканальвацца ў розных накірунках. У нас прэсу чытае ўся сям'я. Я шмат гадоў выпісваю "Рэгіянальную". Газета мне падабаецца тым, што ў ёй можна пачытаць пра жыццё ў іншых рэгіёнах нашага краю.



**Аксана Лукашанец, сакратар:**

– Журналістыка дапамагае бавіць вольны час. Я часта чытаю ў газетах аб'явы, розныя рэцэпты, у інтэрнэце практычна кожны дзень цікаўлюся надвор'ем. Па тэлебачанні гляджу забаўляльныя перадачы.



**Мікіта Андрыевіч, навучэнец гімназіі-каледжа мастацтваў:**

– Асабіста для мяне журналістыка – гэта сфера маёй будучай дзейнасці. Я хачу стаць журналістам, каб валодаць інфармацыяй і несці яе людзям, а таксама творча самарэалізоўвацца. Гэта прафесія запатрабаваная і прэстыжная.



**Алена Храмцова, будаўнік:**

– СМІ для мяне, перш за ўсё, – гэта навіны пра тое, што адбываецца ў свеце і ў краіне. Я чытаю іх у інтэрнэце. У навінах мне важныя дакладнасць і правільная ацэнка падзей.



**Аліна Шумель, вучаніца гімназіі №10:**

– Уявіць жыццё сучаснага грамадства без журналістыкі немагчыма. Журналісты выпускаюць газеты і часопісы, рыхтуюць тэле- і радыёперадачы. Гэта такая ж важная прафесія, як і настаўнік, доктар, прадавец і г.д.



**Мікіта Ракевіч, студэнт:**

– Гэта спосаб даведацца пра нешта новае, набыць інфармацыю пра падзеі і навінкі ў розных сферах. Пераважна я карыстаюся інтэрнэтам.

**Падрыхтаваў Ілля ЕЛІСЕЕЎ, навучэнец школы журналістыкі "Маладзік".**

## ● НАДВОР'Е

### 4 лістапада, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +8 / +8 | | +5 / +6 | | +4 / +7 | | +5 / +8 | |
| | 735 | ↘ 3 | 742 | ↗ 4 | 741 | ↑ 6 | 742 | ↑ 5 |
| Вільня | +8 / +7 | | +5 / +6 | | +5 / +7 | | +5 / +7 | |
| | 742 | ↓ 3 | 748 | ↗ 3 | 746 | ↑ 5 | 747 | ↑ 4 |

Тэмпература паветра, Воблачнасць, ападкі; Ціск (мм рт. сл.), Хуткасць ветра м/с; Усход, захад па Маладзечне

Усход 8.21
Захад 17.31
Даўжыня дня 9.10

Усход 18.15
Захад 8.00
Поўня




## ● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я

### ВАЛОЖЫН

Мінімальная тэмпература -12,8 °С у 1979 годзе
Максімальная тэмпература +12,7 °С у 1996 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 7,9 мм у 2013 годзе
Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень:

- **Ураджэнец вёскі Дварэц, што на Вілейшчыне, Уладзімір Папковіч трапіў у Германію яшчэ ў савецкія гады. Тыя ўражанні вясковага хлопца, што ўпершыню апынуўся за мяжой, паэт, выкладчык і перакладчык захаваў да сённяшняга дня. Пра іх чытайце ў наступным нумары.**







## Камент-эксперт

Не трымайце ў сабе: напішыце, што думаеце

**Пакідайце каментары пад артыкуламі на інтэрнэт-старонцы Rh.by ці ў суполках газеты ў сацсетках**

**ФК "Маладзечна" апускаецца на 7 радок, а "Чысць" святкуе выхад у першую лігу**

Вось калі Віталь Качаткоў так ухваляе шахматы, чаму хаця б у якасці эксперымента не ўзяць шэфства над маладзечанскімі футбалістамі? І свае перакананні пацвердзіў бы, і, можа, наш футбол падняў бы на ўзровень. ***Віктар.***

**Жарко патрабуе вярнуць урокі працы для старшакласнікаў**

Дзеці (старшакласнікі) і так прыходзяць са школы ледзь жывыя, і позна. ***Марына.***

Навошта гэта праца, у інтэрнэце ўсё можна знайсці. ***Аляксандр.***

Не разумею, з-за чаго спрэчка? Раней у першым класе была праца, мы яе любілі і чакалі. Рабілі ёлачныя ўпрыгажэнні. У старэйшых класах сталярнічалі, а цяпер малаток правільна ў рукі не могуць узяць. ***Яўген.***

**Маладзечанка дамагаецца, каб зрэзалі дрэва ў чужым двары**

Нармальна, камусьці штосьці падалося, таму зараз жа камісія прыедзе да чалавека ў двор правяраць дрэва! А заўтра суседцы падасца, што дом крыва стаіць і ўяўляе небяспеку, таму давайце яго знясём! Дарэчы, гаспадары ўдзельнічаюць, і таму адказнасць за любую шкоду, якую можа прынесці дрэва, калі зваліцца. Прашу заўважыць, не суседка, а гаспадар. Я часта там праходжу, цудоўнае дрэва. Тое, што ў суседкі нейкія беспадстаўныя страхі, не значыць, што трэба ўсё вакол пілаваць. І так па-сапраўднаму высокіх, прыгожых дрэў у горадзе амаль не засталося – то галінкі паспілоўваюць, то ўвогуле пад пень. ***Няпраўда.***

## ● ПРОСТА АНЕКДОТ

Калі б вы маглі адлупцаваць чалавека, вінаватага ў большасці вашых непрыемнасцяў, вы пасля тыдзень не змаглі б сядзець.

***

– Матуля, можна мне пакупацца ў моры?
– Ні ў якім разе! Глядзі, якія хвалі.
– Але ж тата купаецца.
– Яму можна, ён застрахаваны.

***

Дзяўчаты, ведаеце, як хуценька вярнуць мужа з гулянкі? Пішыце смс: "Бяры віно і прыязджай, майго да раніцы не будзе". Адключайце тэлефон і чакайце.

***

Веласіпедыст – бяда для эканомікі. Лічыце самі: ён не купляе машыну, паліва, страхоўку. Не бярэ крэдыт. Не плаціць за мыйку, стаянку і лекі. І ён здаровы!

***

– Чамы вы перавысілі хуткасць?
– Хацеў паспець да дому раней, чым пачне дзейнічаць гарэлка.

***

Ведаеце, чаму так многа людзей ездзіць на добрых машынах? У аўтобусах і электрычках нельга ездзіць у доўг.

Рэгіянальная газета. Rh.by

Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 5000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№44 (1175) 4.11.2017. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія ЛП №02330 /190 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 1041 . Падпісана ў друк у 9.00 2.11.2017.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.** E-mail: reklama@rh.by, regionnews@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.